
Наша мова →3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Вершы Зоі Сачко →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3185) Год LXII | Беласток, 28 мая 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Аўтэнтычнасць у Гарадку

**Чаму можна навучыцца ад старэйшага пакалення ў свеце, які змяняецца хутчэй, чым калі-небудзь? На гэтае пытанне можна знайсці розныя адказы. Без сумнення лягчэй будзе тым, якія прымалі ўдзел у першым выпуску мерапрыемства «Абрады і традыцыі Гарадоцкай зямлі». 12 траўня глядзельная зала Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку была запоўнена да апошняга месца не толькі старэйшымі асобамі — носьбітамі лакальнай культуры, але перш за ўсё не пераймальнікамі, якія маглі навучыцца аўтэнтычнасці, а той часта не хапае ў дамінуючай культуры.**

12 траўня на падмостках сцэны Гміннага цэнтра культуры можна было пабачыць акцёраў-аматараў у сцэнках, якія перш за ўсё наблізілі гледачам мясцовую, гарадоцкую культуру. Не без хваляванняў дырэктар ГЦК **Юрка Астапчук** два месяцы раней пачаў арганізаваць новае культурнае мерапрыемства.

— У нас вельмі шмат калектываў, якія робяць велізарную работу дзеля развіцця культуры ў нашай гміне, — адзначыў Юрка Астапчук. — Узнікла такая думка, каб наладзіць абрадны фестываль. Пайшла інфармацыя, што чакаем заявак... Не ведаў я ці знойдзецца дастатковая колькасць удзельнікаў. На пачатку было цяжка: з'явіліся тры групы, потым пяць... Але ўрэшце рэшт на сцэне запрэзентавалася нямала, бо аж сем груп.

Сярод выканаўцаў былі дзеці, моладзь і дарослыя жыхары Гарадоцкай гміны. Менавіта ў такім парадку групы прэзентаваліся на сцэне. Першымі выступілі вучні Пачатковай школы ў Гарадку з пастаноўкай «Масленіца». Дзеці на сцэну выйшлі апранутыя ў даўнюю вопратку. Мелі таксама рэквізіты, без якіх, відавочна, цяжка сабе ўявіць гэтае свята на Гарадоцкай зямлі: бліны, ласункі і ... «Ніва». Дзяцей рыхтавала настаўніца **Тамара Бялькевіч**, якая адзначыла, што вучні ахвотна гуляюць у тэатр.

— Такія заняткі павінны адбывацца прынамсі раз на тыдзень, — адзначыла настаўніца. — Дзеці вучацца пры гэтым роднай мове, знаёмяцца з тонкасцямі публічных выступленняў. Такога тыпу мерапрыемствы ладзіць БГКТ і мы штогод прымалі ў іх удзел. Цяпер трэба было б ездзіць ажно ў Гайнаўку. Таму цешымся, што ў нас адбываецца такога роду мерапрыемства. Файна, спадзяюся, што «Абрады і звычаі Гарадоцкай зямлі» стануць цыклічнай імпрэзай.

Дзякуючы разнастайным выступленням гледачы маглі ўбачыць народныя, каляровыя касцюмы — гэтыя святочныя і будзённыя, а таксама абсталяванне даўнейшых вясковых дамоў. Публічнасць мела магчымасць азнаёміцца, ці проста ўспомніць старыя абрадныя песні, прыпеўкі, якія сёння проста не ў кожнай хаце спяваюць. Спектаклі ўявілі гледачоў у інтымны свет гарадчан, свет сапраўдны, аўтэнтычны і прываблівы.

Напэўна кожны з гледачоў звярнуў увагу на свабоду і натуральнасць ігры акцёраў, што на сцэне з'яўляецца самым важным. Таксама цешыць, што сярод выканаўцаў была моладзь і дзеці, якія хочуць узяць на сябе адказнасць за культываванне мясцовых традыцый. На сцэне можна было таксама пабачыць вучняў Пачатковай школы ў Залуках са спектаклем «Вечаркі», а таксама гімназістаў з Гарадка з пастаноўцы «Свята Юрыя». Вучняў да выступлення падрыхтавалі настаўніцы Альжбета Раманчук і Ева Паплаўская.

Малодшыя групы рыхтавалі настаўніцы, але старэйшыя ўжо не патрабавалі нагляду. Самі былі акцёрамі, рэжысёрамі і сцэнарыстамі сваіх спектакляў. Кусочак свайго мясцовага «Велікоднага снедання» раскрыў калектыў «Каліна» з Залук. На пытанне скуль дыялогі **Галіна Парфянюк** адказала: «З галавы!». Сапраўды, большасць гледачоў напэўна некаторыя абрады, вераванні, убачаныя на сцэне, ведаюць са сваіх дамоў, са свайго досведу.

— Мне семдзесят восем гадоў. У Залуках я нарадзілася і выгадавалася, — сказала «Ніве» пасля выступлення спадарыня Галіна Парфянюк. — Усе гэтыя абрады, звычаі — проста з хаты. Малодшыя ўдзельніцы калектыву вучыліся з картак, а для мяне было найлягчэй. Ну, проста так як у хаце мы размаўлялі і на сцэне!

Гуртoк вясковых гаспадынь «Але бабкі» таксама не былі горшыя. Гледачам у час іхняга спектакля «Адведкі» ў галовах напэўна ад захаплення з'явілася думка: «Але бабкі!». Магічныя жаночыя замовы ці калыханкі, паказаныя імі на сцэне, усведамлялі, што нованароджанае дзіця апрача хрышчэння патрабавала перш за ўсё «прыняцця» сваімі людзьмі — аднавяскоўцамі і сям'ёй.

Думаю, што таксама блізкі ўсім быў спектакль калектыву «Асенні ліст», які паказаў «Выправунак да шлюбу». Здаецца, што беларусы Падляшша ў найбольшай ступені захоўваюць шлюбную абраднасць. І так, была сапраўдная маладуха ў сапраўднай вясельнай белай сукні, з караваем і жаніхом. Яшчэ доўга пасля выступлення ў жанчыны дапытваліся ў «маладой», скуль узяла такую сукенку!

На завяршэнне вечарыны госці паглядзелі спектакль калектыву «Расспяваны Гарадок» пад загалоўкам «У вясковай хаце». Група паказала тут праблемы, справы і турботы, якімі жывуць жанчыны Гарадоцкай гміны. Вядома, калі сустракаюцца адны жанчыны, абавязкова гаворка ідзе перш за ўсё пра тых, якія адсутнічаюць за супольным сталом. І гэта характэрнае не толькі жанчынам у Гарадоцкай гміне. Акцёркі проста селі за супольны стол і вялі свабодную размову. Менавіта стол быў тым элементам, які спалучаў усе спектаклі. Стол прадстаўляе сабою шырокае сацыяльна-культурнае значэнне. Гэта сімвал і адначасова рэальная форма супольнасці хатняга агменю, працы, святкаванняў і гульні.

Гарадчане — унікальныя людзі рэгіёна. Самі найчасцей сабе гэта ўсведамляюць, калі пакідаюць сваю гміну. Магчыма таму з новай сілай ладзяцца тут такія мерапрыемствы, як «Абрады і звычаі Гарадоцкай зямлі», бо вярнуўся цяперашні дырэктар ГЦК Юрка Астапчук. Як сам падкрэслівае, гэта не было б магчымым, калі б не яркія людзі, якія ствараюць настрой і атмасферу мерапрыемстваў. Дэмакратычнае галасаванне, якое адбылося пасля фестывалю, высветліла, што праз год зноў сустрэнемся на «Абрадах і звычаях Гарадоцкай зямлі». Раю ўдзельнічаць перш за ўсё таму, што гэта класны ўрок аўтэнтычнасці. Менавіта аўтэнтычнасць — вельмі каштоўная ў нашай індывідуалістычнай культуры рыса. Таму, шукаючы крыніц, варта звярнуцца да традыцыйнай культуры, якую некаторыя лічаць безрэфлексійнай, горшай... Гарадоцкая культура перш за ўсё індывідуалістычная, бо абшчынная. Прыгожая — бо, нібыта, брыдкая, намодная. Яна сапраўдная, бо гэта тэатр, у якім сцірающца межы паміж публікай, сцэнай і кулуарамі.

❖Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# XX

## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2017 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2017 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.





# Еўрабачанне і еўрадуманне

Штогадовы конкурс песні „Еўрабачанне” для звычайных тэлегледачоў складаецца з дзвюх галоўных частак. Першая частка — гэта выступы канкурсантаў. Другая частка, не менш захапляльнае шоў, гэта працэс галасавання і выстаўлення балаў нацыянальнымі журы і самымі тэлегледачамі.

Частка першая хоць і забаўляльная, але менавіта там тэлегледачы хочуць убачыць і ацаніць выключна для сябе прадстаўніка сваёй краіны, а таксама параўнаць яго выступ з іншымі. Ну і вызначыцца, зноў жа для сябе, хто на гэты раз быў лепшым. Пры гэтым большасць гледачоў не асабліва спадзяецца, што лепшы на іх думку выканаўца стане пераможцам. Гэта, маўляў, усё ў мінулым, у тых часах, калі „ABBA” запальвала аўдыторыю не толькі на конкурсе, але і да, і пасля яго. Зараз, нібыта, усё па-іншаму. Таму і проста патэлефанаваць, каб аддаць свой голас вырашаецца далёка не кожны з тых, хто з заміраннем сэрца прыліпае да экрана тэлевізара і не можа адарвацца ад яго да самага скančэння перадачы.

У другой жа частцы, значна больш чым у першай, у гульню ўступае не вялікасць інтрыга. І зыходзіць яна зноў жа з таго ж перакanання, што выйграе той, за каго прагаласуюць, і прагаласуюць не толькі за яго талент і выступ, але і яшчэ па цэлым шэрагу сімпатый і прыярытэтаў, якія з цяперашнім выкананнем і ўвогуле з музыкай звязаныя даволі ўмоўна.

Усе, прыкладам, заўважылі такую заканамернасць, што суседзі стараюцца хоць адным балам падтрымаць суседзяў. Скандынавы скандынаваў, прыбалты прыбалтаў і гэтак далей. Пры ўмове, што гэтыя суседзі на сённяшні момант не ваююць між сабой.

Беларусь афіцыйна ні з кім не ваюе. У дадатак яе прадстаўнікі адны з нямногіх, хто выконваў сваю кампазіцыю на роднай мове. І таму яе шанцы атрымаць балы ад суседзяў, пры такім добрым выкананні, былі тэарэтычна вельмі высокімі. Але гэта толькі тэарэтычна. На практыцы яны моцна расчаравалі беларускіх аматараў конкурсу.

— Ты ўяўляеш, польскае і літоўскае нацыянальныя журы нам не паставілі аніводнага бала, — пазваніў мне знаёмы адразу пасля конкурсу. — Наша журы палякам хоць нейкія балы паставіла.

— Можа ім наша песня зусім не спадабалася, — адказваю ўжо сонны, бо не вельмі цікаўлюся „Еўрабачаннем”, а на той момант і не падазраваў, што буду пісаць пра гэта.

— Як яна можа не спадабацца суседзям, — заспрачаўся са мной знаёмы, які ў дадатак ёсць яшчэ і музыкам. Таму з яго аргументамі зусім не лічыцца было б зняважай. — Суседзі па тэрыторыі маюць падобную музычную культуру і адпаведна падобныя музычныя густы і прыярытэты. І калі ўкраінцам наша песня спадабалася больш за ўсе іншыя, бо ўкраінскае нацыянальнае журы паставіла беларусам вышэйшы бал, то як іншым суседзям яна магла не спадабацца зусім?

— Хіба маеш крыху рацыю, — пачаў прасыпацца я, бо стала цікава. — А што там з баламі ад тэлегледачоў?

— Тут сітуацыя адваротная, — уздыхнуў музыка. — І палякі, і літоўцы, і латышы, я ўжо не кажу пра ўкраінцаў, усе нас падтрымалі. Хто мацней, хто слабей, але ўсе.

— Дык чаго так уздыхаеш?

— Бо ў гэтым галасаванні нашы тэлегледачы не далі ім балаў. І тут вельмі дзіўна як такое магло атрымацца. У галаве не ўкладваецца. Мяркуй сам. У Польшчы жыве багата беларусаў. Зразумела, што многія з іх прагаласуюць як грамадзяне Польшчы за Беларусь. Вось табе і нашы балы тэлегледачоў з Польшчы. Але ж і ў Беларусі жыве нямала палякаў. Карту паляка атрымала безліч людзей. А за выканаўца з Польшчы не было каму прагаласаваць з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

— У нас заўсёды праблемы з матэматыкай, калі даходзіць да падліку галасоў, — смяюся я. — Распавядзі лепш пра Украіну. Ты казаў, што яны Беларусь падтрымалі больш за ўсіх.

— Яны то так, — яшчэ глыбей уздыхнуў музыка і голас яго стаў яшчэ больш сумны. — Затое беларускае нацыянальнае журы не аддзячыла іх па-суседску аніводным балам. Ну то на наступны год і ад іхняга журы мы атрымаем дулю. Праўда, нашы тэлегледачы адзін бал усё ж Украіне далі. Хоць, калі паглядзець як паказваюць падзеі на Украіне нашы агітацыйныя тэлеканалы, то і гэты бал нечага варты. Яго як мінімум за дзесяць трэба лічыць.

Віктар САЗОНАЎ

# Прашу прабачэння ў Чытача



І дурны, і разумны спазнае. Самога сябе і сябе ў Рэчаіснасці. Так у духоўным вымярэнні, як і ў фізічным. Абмежаванне ёсць толькі ў пазнавальным гарызонце, які вызначае кожны сабе. Больш ці менш мэтанакіравана. Для ўсіх пазнаючых розумаў рэальнасць з'яўляецца свайго роду галаваломкай, пазламі, мноствам хаатычна рассеяных элементаў няяснага зместу. Яны спалучаюцца ў сабе сумяшчальнасцю чалавечых паводзін, цыклам штодзённых паўтарэнняў, падабенствам сыходзячага часу. Але ж і раздзяляюць сваім падабенствам і ўзнаўляльнасцю. Толькі складзеныя ў цэласць паказваюцца магчымай ідэяй цэласці. Такой ідэяй цэласці з'яўляецца сам чалавек. Выявіўшы, што з'яўляецца істотай, якая пазнае, адчувае першае азарэнне. Гэта матывуе яго да яшчэ большай працы. На жаль, канчатковы вынік шакіруе. Калі мае ён апірышча ў Веры, у канчатковых высновах ён пытаецца пра гарызонт сваім Ведаў. Калі ў Ведах, пытаецца, чаму Вера яго падвяла. Веды, у дынамічным аспекце пашырэння або паглыблення самасвядомасці, з'яўляюцца разбуральнымі. Разбуральнымі ў тым сэнсе, што адкрываюць шлях пытанняў без канца. Нездарма ж адзін з хрысціянскіх містыкаў гаварыў, што веды з'яўляюцца ворагам веры. Яны, на мой погляд, становяцца ім тады, калі патрабуюць адказаў. Іншымі словамі, веды сваё штурхаюць наперад, не выконваючы належным чынам узнятых сабою пытанняў. Вера загадвае, каб мы да іх дакрануліся. Веды гэта імпэт, імпульс. Вера гэта спыненне — але не кансерватызм, цемрашальства, прымітывізм. У пэўным сэнсе, вера лягчэйшая чым веданне — яна патрабуе нязгаснай духоўнай напружанасці. Веды — пастаяннай паслядоўнасці, аргументаў, парадку, логікі, якая не блукае. І самакантролю розуму. Такім чынам, маем насупраць сябе духоўнасць, не шукаючу любой цаной сваіх уласных вызначэнняў, і веды, якія, дзякуючы вызначэнням, пашыраюцца да бясконцасці. У гэтым сэнсе вера лягчэйшая, яна пачынаецца ад Бясконцасці і спазнае рэальнасць ва ўсім, нягледзячы на ляжаўшыя перад ёю цені. Веды не могуць іх ігнараваць, таму што яны яшчэ толькі імкнуцца да Бясконцасці. Рана ці позна, вера і веды такім чынам стануць насупраць сябе. І альбо будуць ігнараваць адзін аднаго, або прызнаюць сваю ўзаемную супярэчнасць. Калі выказаць здагадку, што і адна, і другая кагнітыўная канцэпцыя з'яўляецца мэтанакіраванай — гэта значыць, мае сваё сэнсоўнае абгрунтаванне — можна адважыцца на пытанне: колькі Ведаў у Веры, а Веры ў Ведах? Што ж, я ведаю, што гэта да крыві шчырае пытанне. Ну дык што, што наіўнае? Працягваю верыць у наіўнасць дзіцяці, якім я ёсць ад нараджэння. Нават ва ўзросце 58 гадоў.

Усё тое, на чым да гэтага часу абапіраў я свой светапогляд, абярнулася ў руіны. Я пераходжу сур'ёзны крызіс. І ў розуме, і ў духу. Сэнсы, упэўненасць у іх, перакананне, мае папярэднія веды — пад цяжарам пытанняў леглі ў руінах. Тое ж самае здарылася з маёй верай у... Веру. Мабыць, мне ўдасца аднавіць страчаны свет сэнсаў. Можа... Мая інтуіцыя падказвае, аднак, што давядзецца пачынаць з асноў. Няўжо так рэканструяваны свет зноў адкрые ўвесь Сэнс? На жаль, само паняцце сэнсу або яго адсутнасці з'яўляецца адной з ключавых семантычных гульняў. Гэтымі гульнямі, як галаваломкамі з пазлаў, чалавек сам стварае сабе работу. Хіба не для таго, каб яго мозгу не было сумна? Я не знаходжу такога паняцця, якое ўпарта шукаю, і якое вызначала б само сябе, як Сэнс Дасканалы. Хаця яно, мабыць — толькі працягнуць руку. Можа, проста трэба спыніцца на імгненне... Мы Рэальнасць адлюстроўваем у розуме праз паняцці, якія замацоўваем несумненнымі функцыямі спазнання. Рацыянальнага ведання. Цікава, што ў мозгу спазнанне праз Веру сядзіць у ім як шышкападобная залоза. Але нават мінімальнае кутняе зрушэнне ўядомых значэнняў, іншы розны пункты гледжання, іншая перспектыва, надаюць ім новую якасць. Або прычынна-выніковай якасці — рацыянальную. Або той, што бачыць усё скрозь — духоўную. Аднак у кожным з гэтых выпадкаў вопыт гублення сэнсу шакіруе і ад гэтага становіцца страшна. Я ў жаху. Прашу прабачэння ў Чытача.

Міраслаў ГРЫКА

Сваімі вачыма

# Вітава запісала і памятае



Няма таго злога, каб не выйшла на добрае, — гаворыць адна з народных, мудрагелістых прыказак. Ці проста можа гэта толькі вытлумачэнне ўласнай ці грамадскай дурасці, абапертай на своеасаблівым менталітэце кожнага народа. Як бы гэта не было, але і такое здараецца ў нашым жыцці.

Пішучы тыдзень раней пра камунікацыйныя клопаты майго роднага старонння, а менавіта пра праблему як дабрацца на родную лавачку, як заўсёды пры нагодзе з'явіліся новыя думкі і сітуацыйныя роздумы ды ўспаміны. Вандруючы пешшу праз суседнюю вёску Вітава, стараўся я прыгадаць імёны, прозвішчы і мянушкі тых вітаўлян, сядзібы і лавачкі якіх мінаў я ў сваёй, любімай ролі падляшскага вандроўніка. І ў памяці, як не сорамна, штораз больш прабелаў. Справу ўзгадваю таму, што з другога па чацвёрты клас хадзіў я пешшу ў Вітава ў пачатковую школу. От, тры кіламетры ў адзін бок і тры кіламетры назад з ранцам поўным кніжак. Для дзяцей і бацькоў быў гэта немалы выклік, калі ўлічыць тадышнія сапраўды доўгія, марозныя зімы з завеямі ці зацяжныя восеньскія дажджы. Холад, сцюжа і прамокляа да ніткі вопратка не былі для нас навіной. Было гэта таксама поле і для спакус і ўсяго роду фантазій, прыпісаных школьнаму ўзросту, асабліва вяснова-летняй парою. У пэўны момант, напрыклад, мы з дзвюма сяброўкамі ў палове дарогі зыходзілі ў вітаўскую хваіну, дзе ў яме, у якой леснікі трымалі саджанцы сасны і бярозы, мы сабе ляжалі, чыталі кніжкі і марылі. Назад вярталіся па гудках цягнікоў, што ездзілі па маршруце Гайнаўка — Чаромха. Папаліся пасля двух дзён, калі занепакоеная настаўніца прыехала запытацца, чаму бацькі перасталі нас выпраўляць у школу. Ой, дасталася тады нам. З сённяшняга пункту гледжання, то ніхто нас пэўна з хаты не выправіў бы на паўкроку ў такую дарогу. Але пяцьдзясят ці сорак гадоў таму назад людзі функцыянавалі ў іншай рэальнасці, інакш ставіліся да абавязку працы і навукі сваіх дзяцей. Такім чынам, дзякуючы сваім вучнёўскім вандроўкам і таму, што ў Вітаве працавала мураваная крама, у якой мы рабілі пакупкі, пазнаёміўся я даволі дакладна з вітаўскімі сем'ямі і іх мянушкамі. Ну і туды мы таксама хадзілі калядаваць, што было не менш важным пры знаёмствах на доўгія гады. Калі нас з пятага па восьмы клас перавялі ў пачатковую школу ў Арэшкава, якая была ўжо сем кіламетраў ад роднага дому, то транспартныя праблемы выклікалі ў нашых бацькоў ужо сапраўднае хваляванне. Але праз гэтую змену маё знаёмства з прозвішчамі і імёнамі жыхароў Гайнаўшчыны расцягнулася і на Арэшкава, і на Пасечнікі-Вялікія.

Аднак адлегласць часу і, на жаль, рэдкае наведванне родных мясцовасцей, у нядзельнае пасляабедзеннае вяртанне выклікалі ў мяне сорам за сваё бяспамяцтва. Ідучы праз вёску, нарадзілася ў мяне думка, каб, напрыклад, каля кожнай лавачкі, але за плотам паставіць інфармацыйную дошку пра род, які там пражываў і ягоны лёс на фоне адной фатаграфіі. Такі дакумент класна быў зроблены гадамі таму Паўлам Грэсем у вёсцы Меляшкі Гарадоцкай гміны. Прыгадаю, што Павал Грэсь зрабіў вялікафарматныя здымкі жыхарам кожнага дому і фатаграфіі павесіў на іх плоце. Цяпер, калі параўнаць тыя выявы з сённяшнім днём, розніца ў сямействе і ўласніках можа быць неверагоднай. Тады як жа важна, каб гмінныя школы, дамы культуры ці бібліятэкі сваю актыўнасць і адметнасць выбудоўвалі не толькі выключна на памяці аб «кухні крэсовай». Наша мінуўшчына нашмат багацейшая і нераскрытая самімі намі — бяздумнымі сямейнікамі.

Але менавіта для Вітава пашчасціла. Калі вярнуўся я ў Беласток, пачаў адразу гартаць альбом-даведнік гісторыка-краязнаўца Іаанны Корх, ураджэнкі і жыхаркі Вітава, пра ейную малую Айчыну. Мне вярталася памяць, а зробленае спадарыняй Іааннай выданне глядзелася мне проста цудам. Дзякую яшчэ раз. Пастаралася яна менавіта ў форме фатаграфічнай дакументацыі сабраць жыццё вясковых сем'яў у дваццатым стагоддзі пад адну вокладку. Усё старанна апісанае і адрэдагаванае. Таму вітаўляне ўвайшлі не толькі ў нябесную вечную памяць, але і таксама ў беларускую гістарычную.

Яўген ВАПА

**Міраслаў Аўксянцюк і Міраслаў Хіліманюк** з Гайнаўкі збіраюць даўнія прылады працы, посуд і іншыя прадметы, якімі штодзень карысталіся нашы продкі. Запісвалі яны назвы ўсіх ручных вырабаў перш за ўсё на дыялекце Ласінскага прыхода, але таксама на іншых гаворках Гайнаўшчыны. Гэтая зацікаўленасць стала для іх інспірацыяй, каб выдаць кніжку «Наша мова», у якой побач назваў прадметаў побыту апісваюцца таксама нашы традыцыі і абрады. Прамоцыя кніжкі адбылася ў маі ў Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы.



Злева дырэктар бібліятэкі Ала Грыц, доктар Анна Нікіцюк, Міраслаў Хіліманюк і Міраслаў Аўксянцюк

# Наша мова

— Нававыдадзеная кніжка «Наша мова» выклікае ўзрушэнні, успаміны з дзяцінства і спалучаныя з гэтым эмоцыі. Цяпер расце зацікаўленасць нашай мовай сярод унукаў людзей, якія персяліліся з вёсак у гарады. Прэзентаваная сёння кніжка гэта ўдалая прапанова для маладых людзей, якія пачалі цікавіцца нашымі песнямі, абрадамі і значэннем даўніх слоў, — сказала дырэктар Гарадской бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц і запрасіла перад публіку доктар Анну Нікіцюк, якая займалася карэктурай кніжкі.

— Калі я атрымала матэрыялы кніжкі «Наша мова» для карэктуры, спачатку падумала, што трэба зрабіць транскрыпцыю апісаных слоў, каб іх пісьмовы запіс быў цалкам згодны з іх вымаўленнем і надрукаваць усё згодна з навуковымі стандартамі. Аднак пасля падумала, што гэта не навуковая праца, а словы запісаныя іх збіральнікамі можна надрукаваць так, як падрыхтавалі іх Міраслаў Аўксянцюк і Міраслаў Хіліманюк. Галоўная вартасць нававыдадзенай кніжкі не ў навуковым дакументаванні нашай мовы, але ў тым, каб праз тлумачэнне значэння паасобных назваў прылад працы, вырабаў, а таксама слоў датычных абрадаў зацікавіць маладое пакаленне нашай мовай, — сказала мовавед доктар Анна Нікіцюк.

— Ідэя напісання кніжкі «Наша мова» паўстала спантанна, калі мы з Міраславам Аўксенцюком былі на семінары, прысвечаным турыстычным атракцыёнам. Там трапіла нам у рукі лістоўка з Малапольшчы, з якой мы даведаліся, што далёка да нас карыстаюцца словам «rogulka», якое абазначае тое ж самае, што наша «рогулька», кусок галінкі з растапыранымі адросткамі, якой мялі бульбу і рабілі з яе «тоўканіцю». Гэтая «рогулька» стала інспірацыяй для збору назваў старых вясковых вырабаў і апісання вясковых абрадаў. Сталі мы запісваць словы пры розных нагодах, нават на абрыўках газет, каб пасля дома прааналізаваць іх і апісаць. У канцы кніжкі пакідаем пустыя старонкі, каб чытачы маглі запісваць там чарговыя дыялектныя словы, — сказаў Міраслаў Хіліманюк і паказаў рагульку, выканаую спецыяльна на сустрэчу ў бібліятэцы.

У кніжцы апісаны таксама розныя заняткі і ўсялякія іншыя словы, перш за ўсё тыя, у якіх цікавае значэнне. Міраслаў Хіліманюк гэта вядомы ў Гайнаўцы мастак. Ён выканаў ілюстрацыі для кніжкі, а на вокладцы красуецца рэпрадукцыя ягонай карціны з вясковым краявідам.

— Мы з сябрам Міркам Хіліманюком збіралі старыя прадметы і падумалі, што можам апісаць іх. Кніжка стваралася каля двух гадоў. Мы запісвалі словы без транслітарацыі, але так, каб былі яны зразумелымі для розных чытачоў, бо нашай задумай не было стварыць чарговы слоўнік мясцовай гаворкі. Калі чытачам нашай кніжкі з'явяцца ўспаміны з дзяцінства, мы будзем рады. Ёсць задума, каб выдаць яшчэ вясковыя песні, якія спяваліся пры розных нагодах. Мы ўжо пачалі збіраць песенны рэпертуар, — заявіў Міраслаў Аўксенцюк.

— У Гайнаўцы штораз радчэй чуем сваю мову. Кніжка можа заахвоціць, каб больш размаўляць па-свойму, — заявіла дырэктар Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Бажэна Маркевіч.

— Калі я ўзяла кніжку ў рукі, адразу ўспомніла дзяцінства і словы «ополонік», ці «простыня». Калі мы былі маленькімі дзеткамі, размаўлялі толькі на гаворцы, а ў школе вучыліся польскай мове. Калі я заехала да сваякоў у Эльбланг, абрадавалася, што бачу там «собаку». Аднак даведалася, што гэта «pies», — сказала настаўніца Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Гражына Паўлючук.

Успомнілася мне тады сяброўка з пачатковай школы, якая на пытанне настаўніцы, як называецца сабака з «Элементара», адказала «воўк», замест «Ас».

— Я рада, што большасць слоў у кніжцы запісана была ў Ласінскім прыходзе, адкуль я родам. Калі я вучыла ў Пачатковай школе ў Ласінцы, дзеткі на перапынках размаўлялі па-свойму. Калі закрыліся нашы невялікія школы і вучняў з вёсак сталі звозіць у вялікія гмінныя школы, яны там сталі ўжо гаварыць на польскай мове. Кніжка «Наша мова» з'яўляецца добрым штуршком для моладзі, каб больш зацікавіцца нашай мовай, — сказала па-беларуску старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Люцына Рушук і заахвочвала тых, якія гаварылі падчас спаткання на польскай мове, размаўляць па-свойму.

Кніжка «Наша мова» таксама ў іншых сабраных выклікала ўспаміны з часоў, калі яны паўсюдна карысталіся матчынай мовай. Зафіксаваныя ў кніжцы «пальнуці», ці «пэрэпыніці» сведчаць аб роднасці дыялекту Ласінскага прыхода з беларускай літаратурнай мовай. Агнешка Андраюк з хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы і заадно калектыву «Гармонь» з Ласінкі праспявала песню, з якой у Ласінцы адбывалася вясельнае «успамаганне» і атрымала ў падарунку кніжку «Наша мова».

У выданні «Наша мова» апісаны таксама абрады і традыцыі.

— Добра было б звярнуць увагу таксама на гаворку з цвёрдым вымаўленнем, хаця б запісаць яе ад бабуль, якія яе дасканала ведаюць, каб асаблівасці нашых гаворак былі запісаны ў арыгінале, — заявіў Ян Хомчук, дзеяч Аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы», родам з Істока.

Бывае, што гаворка абрываецца на апошнім панадворку вёскі, а некалькі соцень метраў далей, на хутары іншага сяла, размаўляюць ужо на іншай гаворцы. Напрыклад вёскі Махнатае і Старое Беразова практычна спалучаны з сабой. Аднак вымаўленне ў Махнатым больш цвёрдае і больш набліжанае да мовы беларускіх палешукоў, чым у Старым Беразове. Аднак гэтыя сёлы належаць да двух прыходаў — Старакорнінскага і Новаберазоўскага і ў гэтых двух парафіяльных асяродках вымаўленне розніцца прыбліза так, як у Махнатым і Старым Беразове. У мінулым прыхадскія цэрквы былі месцам, дзе збіраліся людзі з розных, нават аддаленых ад сябе сёл і часта стараліся гаварыць на мове набліжанай да мовы іншых вернікаў парафіі. Канешне, вёскі пераходзілі з аднаго прыхода да іншага і бывалі выключэнні. Калі Арэшкава належала да Дубінскага прыхода, жыхары гэтай пушчанскай вёскі не навучыліся гаварыць так як жыхары вёсак Дубінскай парафіі. Багацце гаворак Гайнаўшчыны гэта яе козыр, які варта дакументаваць не толькі шляхам аўдыёзапісу, але і ў пісьмовым выглядзе. Выданне кніжкі «Наша мова» прапагандуе ідэю захоўвання нашых багатых беларускіх гаворак.

— Значэнне слоў з такім самым вымаўленнем можа розніцца залежна ад таго, на якой гаворцы яны вымаўляюцца. Здарылася, што жанчына сказала мне «я забылася». Я ёй гавару, як ты «забылася», калі стаіш тут жывая. Можа ты «забулася»? — сказаў мужчына з публікі.

Для несарыентаваных патлумачу, што, напрыклад, у Чыжах слова «забылася» абазначае «zapomniała», а «zabiła się» — «забілася». У Дубічах-Царкоўных слова «забылася» абазначае «zabiła się», а «забулася» — «zapomniała». Падчас спаткання паявілася пытанне, ці кніжка спрычыніцца, што дзеці стануць размаўляць на нашай мове.

— Пішучы гэтую кніжку не было ў нас задумаў, каб яна стрымала працэсы, якія тычацца маладога пакалення. Аднак мы хацелі зацікавіць маладых асоб нашай мовай. Старэйшыя асобы могуць знайсці ў кніжцы таксама словы, якіх значэння раней не ведалі або словы, якімі даўно не карысталіся. Я раю бацькам, якія стануць уласнікамі нашай кніжкі, пакласці яе на месцы, куды прыходзяць дзеці і пабачыць, ці яны самі пацікавяцца кніжкай з загалоўкам «Наша мова», — сказаў Міраслаў Аўксянцюк.

— Кніжка «Наша мова» цікавая для нас, асоб, што хадзілі яшчэ на «покудзелле», якое тут апісанае. Яна можа зацікавіць таксама і моладзь, — заявіла Марыя Балтрамюк, у мінулым настаўніца польскай мовы ў Гайнаўцы.

З прызнаннем пра новае выданне выказваліся таксама былы дырэктар Пачатковай школы № 5 у Гайнаўцы Лявон Кульваноўскі, намеснік дырэктара Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы Юры Харытонюк і іншая настаўніца польскай мовы. Выдатная большасць апісаных у кніжцы слоў была добра вядомая для многіх удзельнікаў прамоцыі, але можна было знайсці таксама словы, напрыклад, з галіны рыбалоўства або будавання драўляных дамоў, якіх значэння складана было дадумацца, калі продкі не займаліся гэтымі заняткамі. У канцы сустрэчы перад сабранымі выступіў гайнаўскі мастак і музык Пётр Гаган, які пад гукі гітары праспяваў песні на беларускай, расійскай і ўкраінскай мовах. Міраслаў Аўксянцюк арганізаваў міні-конкурс на тлумачэнне значэння слоў датычных беларускіх абрадаў. Пасля аўтары кніжкі «Наша мова» атрымалі падарункі ад дырэктар бібліятэкі Алы Грыц. Запрасілі яны частавацца, між іншым, мясцовымі стравамі ды падпісвалі сваё новае выданне.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Узнясенне Гасподняе

Пасля ўваскрэсення Ісус Хрыстос яшчэ сорак дзён з'яўляўся вучням і гаварыў ім пра Царства Божае. Паказаўся Ён звыш пяцістам вучням і, сабраўшы іх на гары непадалёк Галілейскага мора, загадаў ім: «Ідзіце, навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам; і вось, Я з вамі ва ўсе дні да скančэння веку» (Мф. 28:19-20).

Набліжалася яўрэйскае свята Пяцідзясятніцы і адзінаццаць вучняў Ісуса вярнуліся з Галілеі ў Ерусалім. У саракавы дзень пасля ўваскрэсення сабраліся яны ў адным доме і там з'явіўся ім Ісус, які сказаў: «Ідучы па ўсім свеце прапаведуйце Евангелле ўсяму стварэнню. Хто ўверуе і ахрысціцца, той спасёны будзе; а хто не ўверуе, асуджаны будзе (Марк, 16:15-16). Ісус загадаў ім не пакідаць Ерусаліма і чакаць абяцанага Айцом сашэсця Святога Духа. Вучні спыталі ў Яго: «Ці не ў цяперашні час, Госпадзе, аднаўляеш Ты царства Ізраілю?». І ў адказ пачулі: «Не ваша справа ведаць час або тэрмін, які Айцец устанавіў сваёй уладай, але вы атрымаеце моц, калі сыдзе на вас Дух Святы і будзеце Мне сведкамі ў Ерусаліме, і ва ўсёй Іудзеі і Самарыі, і нават да краю зямлі» (Дзеянні, 1:5-8).

Пасля гэтай гутаркі з вучнямі Ісус Хрыстос падняўся перад іх вачыма ў неба. Воблака засланіла Яго і стаў Ён нябачным. Такім чынам Гасподзь і Збавіцель наш узнёсся сваёй чалавечнасцю на неба і сеў праваруч Бога, Айца Свайго. Вучні пакланіліся і, калі ўзіраліся на неба ў чаканні Яго-нага вяртання, нечакана перад імі з'явіліся два мужы ў белым адзенні. Былі гэта анёлы, якія звярнуліся да вучняў са словамі: «Гэты Ісус, што ўзнёсся ад вас на неба, прыйдзе такім самым чынам, якім і бачылі вы, калі Ён узыходзіў на неба» (Дзеянні, 1:11). Вярнуўшыся з Елеонскай гары ў Ерусалім апосталы сабраліся ў святліцы, дзе маліліся і чакалі дароў Святога Духа. Былі з імі некаторыя жанчыны і Марыя, маці Хрыста, са сваімі роднымі. У гэтых днях, молячыся, апосталы выбралі з ліку іншых вучняў шляхам жараб'ёўкі, дванаццатага апостала, Матфея, на месца загінуўшага здрадніка Іуды.

Узышоўшы на неба Ісус Хрыстос нябачна прысутнічае сярод веруючых у Яго. Прыйдзе Ён на зямлю бачным спосабам, каб судзіць жывых і памерлых, якіх уваскрэсіць. Пасля гэтага пачнецца вечнае жыццё, якое для богабаязных людзей будзе напоўнена радасцю, а для няверуючых — вечным асуджэннем.

У Біблії Царква часта параўноўваецца з домам, у якім Ісус Хрыстос называецца пакладзеным Богам краевугольным каменем. Мы павінны быць тымі камянямі, якія кладуцца ў грунт, у грамадскасць. Бог — стваральнік, будаўнік — хоча нас учыніць жывымі членамі Сваёй Царквы, каб мы маглі радасна ісці назначанай Ім дарогай, адчуваючы бяспеку ў Яго міласэрнасці. Аставаймася вернымі нашай Святой Праваслаўнай Царкве, якая вучыць нас Слову Божаму. Усялякая чалавечая пышнасць прамінае бы тая трава, якая вяне. Але Слова Гасподняе трывае вечна.

Узнясенне Гасподняе (Ушэсце) нашага Ісуса Хрыста адзначаецца Праваслаўнай царквою як адно з ліку вялікіх святкаванняў, на саракавы дзень пасля першага дня Пасхі (сёлета 25 мая).

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Валоканне на пустыні

— А дзе людзі?! Дзе дзеліся людзі?! — пытаецца Марыя Кулакоўская, убачыўшы пустую залу Крынскага дома культуры. На валоканне з «Заранкай», якое адбылося ў суботу 29 красавіка, прывяла яе дачка Анна. Яна таксама здзівілася адсутнасцю публікі. Спадарыні Марыі цяжка ўжо хадзіць, яна амаль нікуды не выходзіць з хаты, таму не прысутнасць на нашым мерапрыемстве лічу вялікім гонарам.

І я задумалася над словамі спадарыні Марыі. Вядома, што ў Крынках жывуць людзі, іх тут нават больш за дзве тысячы. Але што гэта за людзі, якія саромеюцца і не хочуць ведаць самі сябе.

Калі на самым пачатку жменьцы сабраных прадстаўляла я спадарыню Марыю — маю настаўніцу беларускага фальклору, яна расплакалася, а заraз потым і я. Столькі гадоў стараюся неяк падтрымліваць нашы традыцыі, культуру і ніяк мне гэта не атрымліваецца. Ну, проста вушы падаюць. Сумна стала таксама і выступаючым дзеткам. Столькі ж рыхтаваліся, з такой ахвотай. Малая Бася толькі што далучылася да калектыву, а ўсе песні вывучыла, да таго навучала яшчэ і ўсіх сяброўак са свайго класа. Аднакласніцы таксама вельмі хацелі прыйсці і разам з «Заранкай» паспяваць, станцаваць. Што ж, не было каму іх туды прывесці. Не было перад кім выступаць. Наша валоканне не зацікавіла ні бацькоў, ні родных бабуль. Бабулі слухаюць нас толькі па фейсбуку. Прытым па сто разоў адзін і той жа канцэрт. Відавочна сорам не дазваляе прыйсці і падтрымаць унучат у рэальнасці. Што ж гэта за людзі жывуць у Крынках!

— Калі не шануем саміх сябе і нас ніхто не будзе шанаваць, — асцерагала я, выціраючы слёзы. Ледзь змагла сабраць сілы, каб неяк пачаць і завяршыць гэту велікодную, але надта сумную сустрэчу. Здавалася, што ўсё-такі Хрыстос не ўваскрэс у мясцовых. Мясцовыя ў касцёле і царкве проста Яго пахавалі ў Вялікую пятніцу і на гэтым усё закончылася.

А можа над Крынкамі вісіць нейкі жыдоўскі праклён, які не дазваляе нам святкаваць сапраўдную Пасху. Не дазваляе абняць друг друга, узрадавацца.

Нашу праграму пачала я з доўгай велікоднай песні, якую сяляне спявалі для пана дзедзіца «Як Пан Езус Хрыстос Сын Божы». Яна настолькі доўгая, што я рашыла папросту яе прачытаць. Запісаў яе Адольф Чэрны — першы перакладчык вершаў Якуба Коласа на чэшскую мову. Сама песня выводзіцца яшчэ з перыяду царкоўнай уніі. Яна змяшчае гадавы цыкл святаў з іх даўно забытымі беларускімі назвамі. Прадстаўленне святаў спалучанае з апісаннем палявых прац і іншых вобразаў з жыцця простых людзей. У сваю чаргу дзеткі выканалі рэлігійныя творы постуніяцкага перыяду. Мама саліcткі Ігі Юзафовіч здзівілася, калі і якім чынам яе дачка змагла вывучыць так доўгую песню, прытым «па-руску».

— «Хадзіў Хрыстос сам па зямле» — гэта найбольш папулярная велікодная мелодыя, — прадстаўляю песню Ігі.

— У такім варыянце выступала і польская песня «Вэсолы нам дзень дзісь настаў», а нават велікодныя песні пра сірочую долю.

Пасля перайшлі мы да больш вясёлых «Паваў» і «Канапелек», каб завяршыць зусім вясёлым кракавякам. Гэты танец паказалі мы ўпершыню. Так перайmaліся, што Іга выпадкова выбіла бубен з рук бубнача, а Таня, танцуючы, упала на падлогу. Дзякуй Богу, неяк пазбіраліся. Дырэктар Крынскага дома культуры Альжбета Чарэмха пачаставала ўсіх ласункамі, якія спажывалі, слухаючы ў выкананні Марыі Кулакоўскай велікодныя вершы з яе родных Крушынян.

**Іаанна ЧАБАН**

# Чарнобыль. Зона




„Мой бацька быў адным з працаўнікоў, якія дзяжурылі 26 красавіка 1986 года. У той дзень, дакладна ў 1 гадзіну 23 мінуты і 40 хвілін камбінацыя фактараў выклікала выбух чацвёртага рэактара. Пакуль што гэта самая вялікая ядзерная катастрофа ў гісторыі чалавецтва. 50 МЦ ядзернага паліва вызваліліся ў атмасферу да вышыні 2 км, што адпавядае дзясяткам бомбаў з Гірасімы. Гэта выклікала радыеактыўныя дажджы ў дыяпазоне больш за 2000 км ад эпіцэнтра. Іх уздзеянне прыкмецілі ў дваццаці краінах на абшары больш за 160 000 квадратных кіламетраў" (дадатак да кніжкі „Czarnobyl. Strefa", autor: Francisco Sanchez, rysunki: Natacha Bustos, wydawnictwo: Centrala — Mądre Komiksy, Poznań 2015).

Чорна-белыя рысункі моцна ўплываюць на ўсе пачуцці. Дождж, які, здаецца, падае на цябе, холад, які марозіць, кожную рысу адчуваецца целам і душой. Комікс „Чарнобыль. Зона" закупіла я на апошнім беластоцкім Фестывалі мастацкай кніжкі для дзяцей на прылаўку выдавецтва „Centrala — Mądre komiksy". Прадавала яго жанчына з паголенай да нуля галавой у чорнай, цяжкай вопратцы. Не менш цяжкім з'яўляецца змест гэтай кніжкі. Іспанец Францыска Санчэс вельмі стараўся, каб у сцэнарыі комікса было як найменш жаху і гонкі за сенсацыяй. Але жаху там сапраўды шмат — на кожнай старонцы, на кожным, без выключэння, рысунку. Ад пачатку да канца кніжка трымае чытача ў напружанні. Напружвае цішыня, часам глухая, часам крыклівая. Сумнае сцвярджэнне Зоі Данілаўны змешчана ў якасці ўступнага слова: „(...) у жыцці самыя жахлівыя рэчы праходзяць спакойна і натуральна". Балюча сутыкаемся з увасабленнем, імёнамі і тварамі гэтай трагедыі: бабай Галяй, дзедам Лёнем, маладым Валодзем, яго жонкай Аннай, дзяцьмі Юрам і Таняй — трыма пакаленнямі пацярпелай сям'і. Побач гэтай кніжкі немагчыма прайсці абыякава. Усе мы лічымся пацярпелымі: мая сястра, народжаная літаральна два тыдні пасля выбуху, якая з дзяцінства хварэе шчытападобнай залозай, мой хрышчоны бацька, які не дачакаў старасці, з'едзены ракам, я, спажываючая радыеактыўную агародніну з уласнага агарода. Адчуваю сябе бяссільнай і пасіўнай. Не магу перапыніць пабудовы ядзернай электрастанцыі ў недалёкім Астраўцы. Не вярну жыцця роднаму мне па кудзелі Палессю. Як гэта магчыма знішчыць такое багацце зусім бездакзасна? Як гэта магчыма трымаць людзей, быццам жывёлу, без ніякай інфармацыі цягам 36 гадзін пасля выбуху, пакінуць іх паміраць, а пасля ашукаць, патлумачыўшы, што эвакуіруюць іх толькі часова? Як гэта магчыма, што землякі з іншых рэгіёнаў Беларусі зачынялі дзверы сваіх хат перад рэпатрыянтамі з зоны, быццам мы перад сірыйцамі? Як гэта ўсё магчыма? Ці можна не расхвальваць лёсам соцень тысяч маладых ліквідатараў-герояў, дзеці якіх сёння хварэюць на ўсялякія невылечныя хваробы, альбо доляй некалькіх соцень вярнуўшыхся з-за недахопу хлеба і па прычыне тугі па роднай хаце дзядуляў і бабуль? А што будзе з хварэючымі дрэвамі, звярынай, грыбамі, ягадамі?

Аўтар комікса звярнуў увагу перш за ўсё на Прыпяць — горад-прывід і яго крыклівую цішыню. Да выбуху ён быў населены 47 тысячамі чалавек, у асноўным маладых людзей — працаўнікоў чарнобыльскай электрастанцыі. І яшчэ карусель, якую планавалі здаць у карыстанне на першамайскія святкаванні. Пустуюць прыпяцкія школы, кінатэатры, кватэры. Чакаюць вяртанне жыцця. Мабыць не дачакаюцца. У сярэдзіне саркафага, атуляючага чацвёрты рэактар, знаходзіцца ядзернае паліва, якое застанецца радыеактыўным цягам чарговых 100 000 гадоў.

Паклон да зямлі належыцца суаўтарцы коміксу — мастачцы Наташы Бустас. У яе працы бачны велізарная ангажаванасць і спеласць як вынік сустрэчы з надта складанай, траўматычнай тэмай.

Кніжку трымаю ў школьнай бібліятэцы. Хачу, каб прачытала яе як найбольш маладых людзей. Думаю таксама пра ўвядзенне ў каляндар бібліятэчных падзей важнай даты, 26 красавіка, дня выбуху на чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

**Іаанна ЧАБАН**

# Гісторыя ў кніжных выданнях рэдакцыі „Нівы”




„Ніву” рэдакцыйны калектыў выдае ўжо 60 гадоў. Гэта асноўны напрамак працы рэдакцыі, але не адзіны. З 1992 г. рэдакцыя пад выдавецкім шыльдам „Праграмнай рады” выдае таксама кніжкі. Спісак кніжных выданняў — даволі доўгі і налічвае 50 загалоўкаў. Сярод іх ёсць зборнікі вершаў вядомых беларускіх паэтаў Беласточчыны — Надзеі Артымовіч, Міры Лукшы, Віктара Шведа, празаічнай творчасці Сакрата Яновіча і Міры Лукшы, фельетонаў Юркі Геніюша, Янкі Целушэцкага, Міхася Красоўскага (Дзядзькі Кваса) і некалькі зборнікаў, якія адлюстроўваюць журналісцкую дзейнасць Ганны Кандрацюк.

Пра гісторыю ў кніжных выданнях „Нівы” расказваюць зборнікі ўспамінаў, сабраныя журналістамі ад звычайных жыхароў Беласточчыны і падрыхтаваныя беларускімі дзеячамі, якія сваё бачанне мінулага, як сведкі гісторыі, пажадалі пакінуць малодшаму пакаленню. Значэнне гэтых выданняў ужо дацэньваецца прафесійнымі гісторыкамі. Не ўсё можна знайсці ў дакументах, якія найчасцей з'яўляюцца прадуктам працы чыноўнікаў, паліцыянтаў, канфідэнтаў. Там рэчаіснасць прадстаўленая аднабакова. Зусім інакш бачылі яе аўтары публікаваных „Нівай” успамінаў.

Першы зборнік успамінаў Кастуся Сідаровіча, Юстына Пракаповіча, Янкі Жамойціна і Віктара Ярмалковіча пад супольным загалоўкам ***Лёс аднаго пакалення*** паказаўся ў 1996 г. Аўтары, гэта людзі з розных куткоў Заходняй Беларусі. Расказалі яны пра сваё бачанне міжваеннай рэальнасці Польшчы, Беларусі пад савецкай і нямецкай уладай. Глядзелі яны на гістарычныя падзеі як свядомыя члены беларускай нацыянальнай супольнасці і з такой пазіцыі ацэньвалі палякаў, саветаў, немцаў. Кніжка гэта неабмежаваная крыніца ведаў для даследчыкаў навейшай гісторыі беларусаў. На яе змест дарэчы не раз ужо спасылаліся аўтары навуковых распрацовак.

Падобны характар маюць таксама ўспаміны першага рэдактара „Нівы” Георгія Валкавыцкага ***У каменным крузе,*** выдадзеныя ў 2000 г., у якіх расказаў ён пра сваю ссылку на прымусовую працу ў Прусію, ці Віктара Шведа ***З Мора ў горад*** (2015) пра класічную дарогу кар'ернага росту беларускіх сялян пры Народнай Польшчы.

У 2000 годзе паказаўся зборнік успамінаў пад загалоўкам ***Бежанства 1915 года***. Рыхтаваўся ён рэдакцыйным калектывам некалькі гадоў. У апошні момант удалося запісаць непасрэдных удзельнікаў вялікай вандроўкі беларусаў Беласточчыны ў час Першай сусветнай вайны. Бывала так, што некалькі тыдняў пасля размовы з журналістам „Нівы” аўтар успамінаў адыходзіў з імі ў вечнасць. Зборнік без асаблівай рэкламы вельмі хутка разышоўся сярод беларусаў Беласточчыны. Пару дзясяткаў асобнікаў трапіла ў Беларусь. На Беласточчыне людзі чыталі кніжку і знаходзілі там весткі, пра якія чулі ад сваіх бацькоў, дзядоў, але ніколі не прысвячалі гэтаму ўвагі. Тэма пачала вяртацца ў грамадскі абарот, калі пра дзядоў і прадзедаў сталі пытаць унукі і праўнукі.

Між іншым на аснове гэтых успамінаў Анэта Прымака, унучка бежанцаў, стварыла знакаміты вобраз лёсу жыхароў заходняй Беларусі ў выглядзе рэпартажу ***Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy.*** Зборнік „Нівы” выклікаў вялікую зацікаўленасць у Беларусі, дзе ў гістарыяграфіі тэма бежанства зусім адсутнічала. У Мінску рыхтуецца пераклад для расейскага выдавецтва. У мінулым, юбілейным, годзе паказалася другое выданне ***Бежанства 1915 года.***




Свядомасць, што адыходзіць пакаленне, якое памятала міжваенны час, падштурхнула рэдакцыю да збору ўспамінаў жыхароў Беласточчыны пра перыяд санацыі. У працу, апрача журналістаў і карэспандэнтаў „Нівы” ангажаваліся вучні ліцэяў і студэнты, што прабывалі на гістарычным летніку на Гайнаўшчыне. Дзеля аблягчэння працы была нават падрыхтавана спецыяльная анкета, але яе выкарыстанне атрымалася даволі мізэрным. Пажылых людзей, калі пыталі пра іх маладосць, тыя гаварылі пра ўсё, што памяталі, неабавязкова пра тое, што патрэбнае для такога зборніка. Рэдактару Віталю Лубу прыйшлося шмат напрацавацца, каб вылучыць раздзелы пра эканамічнае, грамадскае, інтэлектуальнае, палітычнае і рэлігійнае жыццё. Атрымалася багатая крыніца ведаў пра жыццё беларусаў Беласточчыны пасля вяртання з бежанства да пачатку Другой сусветнай вайны пад загалоўкам ***У новай айчыне.***

Адчувалася тады ў рэдакцыі, што абавязкова патрэбны чарговы зборнік успамінаў пра перыяд вайны. Тэма была жывая. На вёсках людзі шмат гаварылі пра немцаў, партызан, вялікую адвагу і крайнюю нікчэмнасць. На заклік рэдакцыі адгукнуліся чытачы „Нівы”. Шмат хто даслаў свае ўспаміны. Але асноўную працу, як і раней, выканалі журналісты і карэспандэнты. Аляксандр Вярбіцкі пры кожнай паездцы ў гміну прывозіў з сабой матэрыял у кніжку. Прадуманыя і абгрунтаваныя ўспаміны даслалі Віктар Швед, Дзмітры Шатыловіч і Алена Анішэўская. Кніжка, азагалоўленая ***Пакаленне вайны,*** паказалася ў 2003 г. Мінула 10 гадоў і я сам, пішучы манаграфію пра нямецкую акупацыю Беларусі, па некалькі раз прачытваў кожную старонку гэтага зборніка.

Апошні зборнік успамінаў прысвечаны быў пасляваенным гадам на Беласточчыне. Пасля кожнай вайны ўзнікае надзея на лепшую будучыню. Але на Беласточчыне вайна не закончылася ў 1944 г. Некаторым асобам пасляваенны перыяд запамятаўся горш, чым нямецкая акупацыя. Шмат хто патраціў тады самых блізкіх членаў сям'і. Таму ў зборніка загаловак ***Час трывогі і надзеі.*** Большасць зместу займае тэма самых жорсткіх забойстваў жыхароў Залешанаў, Заняў, Патокі, Стацэвіч, Студзянак, Вілюкоў, фурманоў. У кніжцы змешчана таксама поўная інфармацыя пра вынікі даследавання пракурора Беластоцкага аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці, які ў абгрунтаванні напісаў, што пацыфікацыі беларускіх вёсак мелі прыкметы генацыду па нацыянальных і рэлігійных прычынах. Вельмі цяжка размаўляць з людзьмі, якія ў дзяцінстве патрацілі сваіх бацькоў, часам былі сведкамі іх забойства, а сёння пастаянна вымушаны слухаць, якімі вялікімі героямі былі забойцы. Кніжка мае вялікую дакументальную каштоўнасць.

Гістарычная літаратура гэта таксама ***Дзённікі*** Сакрата Яновіча выдадзеныя „Нівай” у 1997 г. У іх паказаны час вялікіх палітычных пераўтварэнняў канца 1980-х і пачатку 1990-х гадоў, аўтар якіх быў актыўным удзельнікам.

Усе ўспаміны маюць дакументальны характар. Яны не заўсёды адлюстроўваюць тую рэчаіснасць, якая з'яўляецца прадметам аповеду, але перш за ўсё ўспаміны гавораць пра аўтараў як прадстаўнікоў эпохі і пра іх эмоцыі. Ніводзін дакумент з пячаткай чыноўніка не дае магчымасці адчуць атмасферу мінулага часу, так як словы непасрэдных удзельнікаў якога-небудзь грамадскага працэсу.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*

## Транспамежная супраца Беларусі і Польшчы: рэальнасць і перспектывы

У чацвер, 11 траўня, у Берасці адбылося чарговае пасяджэнне падкамісіі па справах міжрэгіянальнай супрацы Польска-беларускай міжурадавай каардынацыйнай камісіі па справах транспамежнай супрацы. З беларускага боку на нарадзе старшыняваў намеснік старшыні Берасцейскага аблвыканкама Андрэй Клец і з польскага — маршалак Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі. Маршалак падкрэсліў, што, нягледзячы на шматлікія інвестыцыі, якія ўжо скончыліся, дарожная інфраструктура, якая злучае польскую тэрыторыю з беларускай, па-ранейшаму недапасаваная да руху. Найважнейшымі прыярытэтамі Падляшскага ваяводства датычна інфраструктуры ў бліжэйшыя гады маршалак назваў будаўніцтва дадатковага моста праз раку Свіслач, мадэрнізацыю памежных пераходаў Кузніца-Брузгі і Баброўнікі-Бераставіца, паляпшэнне транспамежнай дарожнай інфраструктуры за кошт разбудовы дарогі Тарнопаль-Семяноўка, аднаўленне чыгуначнага руху паміж станцыямі Чаромха і Высокалітоўск, аднаўленне чыгуначнага спалучэння Беласток-Гародня, а таксама запуск міжнароднага чыгуначнага спалучэння Гародня-Кракаў (праз Кузніцу, Беласток, Варшаву), будаўніцтва лагістычных цэнтраў у раёне памежных пераходаў Кузніца-Брузгі і Баброўнікі-Берастравіца. Супольным поспехам Ежы Ляшчынскі назваў адмену візавага рэжыму для замежных наведвальнікаў Аўгустоўскага канала, а таксама пашырэнне статусу памежнага перахода Рудаўка-Лясная з воднага на пешаходны, з магчымасцю выкарыстання ровараў. Маршалак Падляшскага ваяводства спадзяецца, што ў бліжэйшы час і Берасцейская вобласць стане даступная ў бязвізавым рэжыме, а бязвізавая зона ў Гарадзенскай вобласці будзе распаўсюджвацца на міжнародны чыгуначны пераезд Кузніца-Гародня і Гарадзенскі аэрапорт. Перад падкамісіяй выступіла Галіна Грабарчук — кіраўнік польскага боку сакратарыята транспамежнага саюза „Еўрарэгіён Буг”. Яна агучыла інфармацыю, якая тычыцца дзейнасці аб'яднання. Чальцы падкамісіі палічылі вельмі важным далейшае развіццё прыгранічнай супрацы ў галіне турызму, культурнай спадчыны, сельскай гаспадаркі, прадпрымальніцтва і абароны навакольнага асяроддзя. З гэтай мэтай чатыры рэгіёны-партнёры сумесна распрацавалі стратэгію прыгранічнай супрацы Люблінскага ваяводства, Львоўскай і Валынскай абласцей ды Берасцейскай вобласці на 2014-2020 гады. Гэты дакумент вызначае мэты і напрамкі развіцця транспамежнай супрацы і мае паспрыяць эфектыўнаму выкарыстанню сродкаў з транспамежнай праграмы „Польшча — Беларусь — Украіна 2014-2020”. Чальцы падкамісіі былі праінфармаваны аб выніках увядзення бязвізавага рэжыму на тэрыторыі Белавежскай пушчы і на Аўгустоўскім канале, а таксама перспектывах бязвізавага рэжыму на тэрыторыі Берасцейскай вобласці. Падчас сустрэчы Польшча падтрымала ініцыятыву беларускага боку, якая мела на мэце змяненне візавага рэжыму для іншаземцаў, у тым ліку грамадзян Еўрапейскага Саюза, якія жадаюць наведаць Берасцейскую вобласць. Таксама падкамісія пачула інфармацыю пра развіццё эканамічнай супрацы прыгранічных рэгіёнаў, абмеркавала магчымасці і варыянты атрымання фінансавання для развіцця гэтага кірунку супрацы. У час сустрэчы быў абмеркаваны і фармат арганізацыі далейшых сустрэч з удзелам экспертаў з розных сфер супрацы. Наступнае пасяджэнне падкамісіі пройдзе на польскім баку. Таксама было прынята рашэнне рэкамендаваць падкамісіі па справах памежных пераходаў і інфраструктуры выпрацаваць адзіную пазіцыю па пытанні ўвядзення роварнага руху на аўтамабільным памежным пераходзе Пяшчатка і Дамачава, паляпшэнне стану мастоў праз Заходні Буг на памежных пераходах Варшаўскі мост і Дамачава, аднаўленне чыгуначных спалучэнняў па маршруце Берасце-Высокалітоўск-Чаромха і адкрыццё памежнага перахода Уладава-Тамашоўка і Ліпшчаны-Сафіева.

racyja.com



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Навошта нам традыцыі?



Некаторыя гавораць: «**Чалавек без традыцыі, гэта дрэва без каранёў**». Вядома, не заўсёды маем ахвоту глядзець і ўслухоўвацца ў абрады нашых дзядоў і ў падобнага тыпу мудрасці. Некаторыя з іх здаюцца быць неактуальнымі. Іншых не ўспрымаем усур'ёз. Усё-такі 12 траўня амаль трохгадзіннае мерапрыемства ў Гарадку было прысвечана «Абрадам і традыцыям Гарадоцкай зямлі». Сярод выканаўцаў былі вучні пачатковых школ і гімназіі. Тры гадзіны — доўга! Нават найбольш нецікавыя заняткі можна працярпець — гэта ж толькі 45 хвілін. Аднак з абраднага мерапрыемства ў Гмінным цэнтры культуры ніхто не выйшаў стомлены. Старэйшыя жыхары гміны даказалі, што з традыцыяй можна знаёміцца ў вясёлай атмасферы, з гумарам. Менавіта яны, носьбіты традыцыйнай культуры, з цікавасцю прыглядаліся выступам сваіх маладзенькіх пераймальнікаў традыцыі.

Вучні Пачатковай школы ў Гарадку паказалі спектакль «Масленіца». Пасля выступу ўдалося мне паразмаўляць з акцёркамі: Вікторыяй Бялькевіч, якой вельмі падыходзіла бабуліна хустка, Эмількай Дэрынг і Ніколяй Грыка. Дзяўчынкі не мелі многа часу для падрыхтоўкі, аднак сышлі са сцэны задаволеныя сваім выступленнем. Вікторыя выконвала адну з галоўных роляў, хаця беларускую мову пачала вывучаць толькі з 4 класа: «Люблю спяваць беларускія песні. Я з першага класа спяваю ў гурце «Казка». Вядома, заняткі па беларускай мове не такія лёгкія, але цешуся, што магу больш яе пазнаць».

Вучні Непублічнай пачатковай школы ў Залуках паказалі спектакль «Вечаркі», у якім спалучылі даўнейшыя гульні з сучаснымі вячоркамі, якія вядаюць са школы. Затое гімназісты з Гарадка паказалі спектакль пра важнае свята — «Свята Юрыя».

Ужо вядома, што праз год зноў адбудзецца такога тыпу мерапрыемства. Застаўся кругленькі год, на працягу якога варта прыглядацца даўнейшым абрадам, якія ў Гарадоцкай гміне ўвесь час жывыя! Тады лепей можна падрыхтавацца да ролі. Зрэшты, выканаўцы атрымалі гарачыя апладысменты, шмат кампліментаў і... пэўную папулярнасць. Вось, друкуем здымак, які я абяцала Ніколі Грыка даслаць у рэдакцыю «Зоркі».

**Тэкст і фота Уля ШУБЗДА**

*Малгажата САДОЎСКАЯ*
*Шымкі, КШ у Міхалове*

## Дасягнуць дасканаласць

*Я стараюся глядзець на дабро і зло,*
*Даю ўсё ад сябе.*
*Але магу астацца адна.*
*Іншыя гавораць мне як жыць.*
*Таму ўцякаю хутчэй.*
*Але калі холадна і цёмна,*
*Я ведаю, што я ўцякла задалёка.*
*Хачу даваць ад сябе ўсё.*
*Але гэтага не хапае.*
*Тады я чую, што падаю*
*І чакаю дапамогі, але яе няма.*
*Тады зноў падымаюся,*
*Сама іду ўгару,*
*Каб упасці яшчэ ніжэй.*
*Трымаю рукі ўверх.*
*Тады я цалкам слабая.*
*Цяпер я падаю ўніз.*
*Я ведаю, што там мяне чакае...*

*Дыяна ЮРЧУК*
*КШ № 3 у Гайнаўцы*

## Мары

*Кожны аб чымсь марыць.*
*Адзін хоча быць лекарам,*
*другі настаўнікам,*
*трэці лётчыкам.*
*Я хачу быць акцёркай.*
*Дабіцца славы на ўвесь свет.*
*Думаю — удасца!*
*Дзіцячыя мары*
*здзяйсняюцца часта.*

*Станіслаў Шушкевіч*

## Кветка-сон у сонным лесе

*Кветка-сон зачаравала*
*Усе дубы, бярозы ў лесе.*
*Нібы сну было ім мала,*
*Калі плыў па небе месяц.*
*Ён свяціў. Спускалі вецце*
*Ліпы, вольхі, елкі, хвоі...*
*А цяпер жа сонца свеціць,*
*Ды яны ў нямым спакоі.*
*Над крыніцай спіць каліна,*
*І асіна спіць старая,*
*І сагнутая ляшчына,*
*І вярба, як нежывая.*
*Салаўя не зачаруе,*
*Бо спявае калыханку,*
*І зязюля не кукуе,*
*Бо заснулі сёння зранку.*
*Кветка-сон зачаравала*
*Майскім ранкам лес зялёны,*
*На палянцы, на прагалы*
*Пахілілі дрэвы кроны.*

# УВАГА КОНКУРС! № 22-17

**Добра знае кожны з вас:**
**Рэкардсмен я ў стылі «брас»,**
**Але нешта медалі**
**Да мяне не даплылі.**
**Ж...**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 11 чэрвеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 18-17: ровар. Узнагароды, беларускія кніжкі, выйгралі Міхал Тапалянскі з Нарвы, Віктар Лінк з КШ № 1 у Гайнаўцы, Вікторыя Антыпюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Космас і фантазіі беларускага дзіцяці

Галоўны герой Янка ў такім узросце, калі яшчэ дзеці не паспелі парваць нябачную сувязь з прыродай. Ён часта бачыць і чуе тое, чаго не могуць пачуць дарослыя. Хлапец інакш разумее жывёл і птушак ды размаўляе з імі на сваёй мове.

І вось аднойчы наш гарадскі Янка прачнуўся ў вёсцы, у хатцы бабулі і дзядулі. Усё тут для яго новае, загадкавае. Але ж і тут жывуць сябры! Наш герой пазнае свет пад кірункам ката Шмурдзіка, сустракае жывёл і птушак, падслухоўвае іх размовы. Вось у хляве знаёміцца з сімпатычнымі Яшкам, Тошкам і Зорачкай. Хто яны? Чаму ў іх такія цёплыя імёны? Якія ў іх справы? Хочаце ведаць як спрачаюцца курачкі? Як яны дзюбай вырашаюць наспелыя праблемы? Ды чаму яны бягуць за дапамогай да пеўня Пеці, бясспрэчнага гаспадара панадворка? Падобных пытанняў можна паставіць безліч...

Адказы і пэўныя падказкі прачытаеце ў каляровай кнізе Міхася Зізюка, пад сяброўскім загалоўкам «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя».

Гэтая кніжная прапанова адкрые вочы на навакольны свет і на тайны прыроды. Чытач шмат даведаецца не толькі пра жыццё хатніх жывёл. Ён пазнаёміцца з ляснымі жыхарамі, даведаецца як патрапіць на Кудыкіну гару ды зразумее, чаму малако белае, а не зялёнае. Словам, усіх, хто возьме ў рукі гэтую кніжку, чакаюць незвычайныя прыгоды.

Гэта таксама найлепшая трэніроўка ў чытанні беларускага тэксту. Кніжка «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя» вельмі складна напісаная, з жывымі дыялогамі, яе лёгка чытаць.

Гэта чарговы падарунак Саюза беларускіх пісьменнікаў, які можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

**(гак)**




Юлія МОНАХ
Новая Воля, КШ у Міхалове

## Вясна

Ідзе вясна,
Ранняя вясна.
Каля крыніцы кветкі ўжо
бачу.
Маё каханне канчаецца.
Добра, што вясна
пачынаецца!

Якуб ГОЛЕЦ
Гімназія свсв. Кірылы
і Мяфодзія ў Беластоку

## Палявая дарога

Часта езджу палявой дарогай
І бачу, як змяняецца прырода.
Зімой сумныя дрэвы
адзінока стаяць у полі.
Вясной усё зелянее навокал,
Цвітуць кветкі. Летам залатыя
каласы збожжа красуюцца.
Восенню каляровыя лісты
кружацца па свеце,
Ляжаць на зямлі.
І так мінаюць дні, месяцы і гады...

## Кот!

Яшчэ не так даўно ён
быў маленькім
пушыстым кацянём.
Цяпер ён ужо не маленькі!
Ён заўсёды вітае мяне, калі я
прыязджаю наведаць
бабулю з дзядулем.
Ён усіх кахае,
ён заўсёды з намі.
Цяпер гэта ўжо вялікі бел-кот!
Але для мяне
ён заўжды маленькі коцік.

# ДАРАГІЯ, СЯБРЫ!

З гэтага нумара пачынаем цыкл «Расквецім гісторыю Беларусі». Пачынаем з «Дахрысціянскай Беларусі». Разам з тэкстам прапануем вам маляванку (якую можаце павольшыць на ксераксе). Ідэя і ўзоры маляванак былі прыдуманы ў Мінску, у рамках адукацыйнай кампаніі «Будзьма беларусамі». Давайце і мы адправімся ў каляровае падарожжа ў глыб гісторыі нашай духовай культуры і спадчыны.

## Старажытныя багі і хрысціянства




Даўней людзі верылі ў паганскіх багоў. Кожны з іх увасабляў розныя сілы прыроды, з'явы і жыццёвыя справы. Для іх ладзілі абрады і ставілі помнікі — стоды. У 988 годзе Беларусь прыняла хрысціянства, але дагэтуль у нас святкуюць Купалле і Каляды — старажытныя святы ў гонар сонца. Таксама непаслухмяных дзетак палохаюць русалкай або зюзяй. Гэтыя персанажы часта выступаюць у вершах пра лета і зіму. Постаці са старажытнага пантэону часта маюць іншае значэнне, напрыклад, «пан» ці «пярун», але яны звяртаюцца да старажытнай міфалогіі.

А вы самі можаце назваць сучасныя святы, якія ўжо ў дахрысціянскія часы адзначалі нашы продкі? **(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 22-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 18-17:**

Акраса, лімон, яслі, Оля, пінгвін, шарфа, Аня, следапыт. Ды, шанс, выдра, ліфт, каліна, два, мова, Столін, ты, няня.

Узнагароды, запісныя кніжкі,выйгралі **Марыя Кардзюкевіч, Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Іаанна Нікіцюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Марыя Ціханюк, Зося Варанецкая, Мацей Кендысь** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Наталля Малішэўская, Аня Васьнеўская** з Шудзялава, **Мацей Зыскоўскі, Марыюш Радзецкі** з КШ № 1 у Гайнаўцы.

Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Dach | Okazja | | | | Sztab / Śmiech | | Jurek / Ar | | Tartak |
| | | | | Start / Kłamczuch | | | | | |
| Znak | | | Chmurka / Chrom | | | | | | |
| Pan | | Chleb | | | | | Ar / Nil | | |
| | | Ruch | | | | No | | | |
| | | | | | Zbocze | | | | |
| | | Bierz | | Pięść | | | | | |

# Вершы Зоі Сачко



* * *

вэсна
стукаю літэры на компутэрові
рукі чысьцюткі бэз зэмл͡іэ і музэлю͡ов
нэбом плывут журавл͡іэ
ты самы і нэ ты самы

## Катя — кравчыха

Катя — кравчыха
обшывала нас
а нам казалось
што так і трэба

нібы ласку ю͡ой зробілі
за шытём прышлі
і пошытэ насаділі

а вона м͡іэрала і прымірала
коб ру͡омнэнько загнуті нэру͡омнэ
то як сьв͡іэчкою вспыхнэш
пудкладамі плечы простовала
на нэпросты дорогі
і навэть пэтэлька удостоілась
коб гузіком дэнь замкнуті

а вона
бы з родн͡іэ кравця Булата
— но нэ ту͡олько пінджак пэрэшывала...

тэпэр
як кості пуд крыжом
а на нэбі душа
еі блюзочкі з фальбаночкамі
на празнік Пасхі
і спудніц͡іэ з закладкою на шчасьце
в старцум домі
дай Божэ прыгоділісь
бо на шматкі — то як

* * *

нашых дорослых діті
нэ пора ужэ учыті
мінулося колі за ручку вэлі
можэ кое-што
і нэ лепі знают чым батькі
але знают по-своёму
а душа боліт — кажэ маті
як так з скрайносьці в крайносьць
забігают часом гнаны
остэрэжу — думае
можэ як раз на с͡іэты раз
і рукі згортае
відно штось колісь пропустіла
но в тлумові прохожых
нэ осудіт іх сэрце
і нэ зум͡іэе мінуті

* * *

моя старосьць твоя
одгрыбае прошлэ
бы в выораных радках
золота шукала
нэ картіны малюе
хучы͡эй пузлямі трохі вжэ погубнянымі
латае дзюравы образкі:

гну͡ой на вілках
і напружаны жылы
як його рвут
а піхер͡ыэ на руках кровлёю набігают

коса што вымітае загу͡он жыта
— роса то высохла
а пу͡от очы залівае

мішкі з картохлямі на ву͡оз
і мішкі з збу͡ожом
за рукі хваталісь коб вкінуті
і так — то рук дотыкалісь
в твэрды дэнь

шчэ картінка з журавлямі:
я в нэбо шыю тягну
мама згорбяна над радкамі
і очы нэ пуднэсэ
здаралісь поранкі для роботы пэрэд сонцём
колі так поспаті солодэнько
(от хочбы так:
нэбо затягло
а збу͡ожэ сухое в мыдлях на полі)

но і лавочкі
дэ молодосьць бэз всякеі заботы
іграла почті до раня

ну і
хрэбэт што за ну͡оч проходів
а ногі знов б͡іэглі
в сьв͡іэт шырокі
умы глубокі колупаті
всякеі всячыны доткнутісь
ох як інтэрэсно было

і Руздва і Вэлікодня ждалі
праталі пэклі
і душою рослі

усэ спішала всэ вбігом
хоч часу дужо бу͡ольш было
чым тэпэр остало

* * *

му͡ой нэдопісаны верш
твоя нэдосьп͡іэвана п͡іэсьня
образ нэдомалёваны
выправы бэз нас по руно золотое
едынкі шку͡ольных тэстув
робота і бэзробота
вся політычна товкотня
што так ум захватуе
і сэрце колотіт
нэлюбов для любяшчых
до слю͡оз обіднэ слово за ласку
і навэть як нахально допчут
нас дорослых
— якая ірунда
пэрэд ліцом страданій дітята

## малолята

ідэ в розгарові дня
з душою на розпашку
нэ бу͡ольш в͡іэчна
оно пока далей летушча стрыла

а якая упэвняна
в выёнтковосьці сво͡юой
— аж шчым по сэрці

а знаюшча якая
якбы розумы вс͡іэ з͡іэла
хоч знаній еі чуть што в жм͡іэньці
(а ты што познали
— до зэмл͡іэ похілілісь
поку͡орно поклонілісь)

дасьць рады
бэз нічыеі рады
сама знае розбэрэцьця сама
і од еі — вэк

пока у страсьцей на службі
і называе то свободою

# Каля Вулькі-Нурэцкай



■ Царква ў Зубачах



■ Крыжы на вуліцы Вулькі-Нурэцкай

Зноў адпраўляюся ў дарогу, каб пабачыць, як змяняецца наша наваколле. Каляшу „поездам", значыць ад Беластока да Бельска не рэйкавым, але звычайным аўтобусам. На чыгуначнай лініі між Беластокам і Бельскам ужо па сутнасці адбыўся знос старых рэек, адбываецца змена падсыпкі, а каля Арэхавіч і Бельска ўжо ляжаць новыя рэйкі. Калі верыць перспектыўнаму раскладу руху цягнікоў, то ўжо каля 10 ліпеня па абноўленай чыгунцы маюць зноў паехаць цягнікі.

Складана параўноўваць тэмпы чыгуначнага будаўніцтва — цяперашнія, калі працу выконваюць галоўным чынам магутныя машыны, з колішнімі, калі работу выконвалі чалавечыя і конскія мышцы. Берасцейска-Граеўскую чыгунку, чацвёртай часткай якой з'яўляецца адрэзак між Бельскам і Беластокам, будавалі два з паловай гады — з 1870 па 1873 год; першы поезд паехаў 8 жніўня, а афіцыйнае адкрыццё чыгункі адбылося 15 верасня 1873 года; абнаўленне цяперашняй чацвярціны прадбачана на чатыры месяцы. Па Берасцейска-Граеўскай лініі курсіравала 44 паравозы, 29 пасажырскіх і 735 таварных вагонаў, працавала амаль тысячу дзвесце чалавек персаналу. Колькасць таварных вагонаў не здзіўляе — чыгунка мела вывозіць тавары з кантынентальнай глыбінкі ў напрамку каралевецкага порта, каб тавар адправіць у шырокі свет. Лінію да апошняй вайны складалі два пуці; пасля вайны адзін пуць быў зняты. Лінія паміж Беластокам і Чаромхай апошні істотны рамонт прайшла 45 гадоў таму.

Тут ёсць і яшчэ адна паралель — паралельна да даўняй Берасцейска-Граеўскай чыгункі ў межах сённяшняга Беластока зараз будуецца Траса незалежнасці — работа мае доўжыцца каля двух гадоў; новая беластоцкая магістраль мае пракоўзвацца пад усімі дасюлешнімі вуліцамі і пад трыма чыгуначнымі лініямі: з Беластока ў напрамку Бельска, Варшавы і Элка.

Першая перасадка ў Бельску — са „звычайнага" аўтобуса на рэйкавы, другая ў Чаромсе — з „рэгіянальнага" на „мазавецкі" поезд. Білеты трэба купіць у кандуктара, які не ўспявае задаволіць усіх жадаючых пасажыраў да прыпынку Баравікі; зранку чыгуначная каса ў Чаромсе не працуе. Гэтым карыстаюцца пасажыры, якія акурат у Баравікі едуць — яны не „ўспяваюць" купіць білет і праязджаюць зайцам. Нямногенька іх, але з'ява ўсё ж такі цікавая.

З чыгуначнага прыпынку Баравікі кіруюся ў бок Вулькі-Нурэцкай. Колішняя палявая дарога зараз абрасла лесам, рух на ёй мізэрны, але ж перад Вулькай грэйдар крышку асвяжае яе жвіровы насціл. Упершыню ішоў я гэтай дарогай каля дваццаці гадоў таму і першымі ў вёсцы пабачыў мужчын; цяпер першымі паказаліся жанчыны, якія і пацвердзілі мне, што цяпер яны складаюць большасць у Вульцы-Нурэцкай. У вёсцы пражывае яшчэ звыш соткі душ, у школьным узросце ўсяго трое дзетак...

А мужчынам то і нечага аставацца ў вёсцы. Вось у Вульцы-Нурэцкай тыя мужчыны, якія асталіся на бацькоўшчыне, дажываюць самотна свой непрацяглы век. Нядаўна вось вывелі аднаго з іх разам з ягонай маці. Адзін распрадаў усе пакінутыя бацькам машыны, будынкі, поле і лес... Два гады таму перастала працаваць у вёсцы крама, цяпер прыязджае толькі мабільная. На маю заўвагу, што цяпер складана тут купіць гарэлку, чую ў адказ, што з гэтым таварам „крама" ў кожнай другой хаце. П'юць дэнатурат, „закусваючы" яго вадою, якая для гэтай мэты лепшая ад аранжады... На пытанне пра калгасныя будынкі за вёскай чую ў адказ, што шмат цэглы з іх вяскоўцы скарысталі дзеля вымошчвання панадворкаў.

У Вульцы-Нурэцкай некалькі вуліц і на іх скрыжаваннях, як на ўсяляякіх расходных дарогах, па некалькі абярэжных крыжоў. Каля першага з іх два мужчыны, відаць, выйшлі разглянуцца з кім бы можна абмяняцца нейкімі весткамі, да каго адазвацца нейкім словам, бо дома няма да каго... Асталіся на бацькоўшчыне з надзеяй зладзіць тут нейкае жыццё, але не атрымалася. Іх лёс прадказальны ў маштабе бягучага дня, і прадказальны ў далейшым маштабе...

У пачатку 1950-х гадоў была пабудавана ў Вульцы-Нурэцкай школа з чатырма класнымі заламі, была пабудавана крама і пажарнае дэпо. За гэтую актыўнасць тадышнія гмінныя ўлады абяцалі вёсцы радыёпрыёмнік... У 1954 годзе завязалася ў Вульцы-Нурэцкай кааператыўная гаспадарка; народзінам новай формы гаспадарання суправаджала заўзятае класавае змаганне. „Газета Беластоцкая": „Nowe rodziło się tu w trudzie i ostrej walce klasowej. Kułacy pisali podstępne skargi na organizatorów spółdzielni a także i na pozostałych chłopów, którzy podpisali traktat spółdzielczy. Napadli też na głównego organizatora zespołowej gospodarki i poważnie go pobili". З прыходам Гамулкавай адлігі ў 1956 годзе тое змаганне абвастрылася, ставячы за мэту поўную рэканкісту ранейшага парадку і ліквідацыю грамадскага новаўвядзення. На дапамогу калгасу прыязджалі прадстаўнікі павятовага камітэта з Сямятыч. У калгасе была ўжо абора з чатырнаццаццю конямі, шаснаццаццю штукамі буйнай рагатай жывёлы, трыццаццю дзвюма свіннямі.

У 1981 годзе Вульку-Нурэцкую наведаў у ходзе сваіх краязнаўчых вандровак Мікола Гайдук. Пра калгас пісаў ён нямнога: „Частка воленцаў аб'ядналася ў сельскагаспадарчы калектыў, іх жыццё і праца грунтоўна перамяніліся, а сёння гэтая калектыўная гаспадарка належыць да перадавых на Беласточчыне". Мне ўпершыню пашанцавала пабываць у Вульцы-Нурэцкай на схіле 1990-х гадоў. Ад аграмаднага калгаснага комплексу асталіся тады адно бойкія руіны, якія з кожным маім наступным іх наведваннем паступова трацяць тую баявітасць. Зараз на рэштках адной з колішніх брам таблічка з інфармацыяй, што там прыватная ўласнасць, на якую ўваход забаронены. А гаспадарыць там адно Час. Калгас крышку як чалавек — нараджаўся ў болях, а паміраe ў забыцці...

Мела вёска свой зорны час менавіта тады, калі ў недалёкім наваколлі пракладваліся чыгуначныя лініі. Мікола Гайдук: „З паратункам прыйшла тэхніка, а дакладней — чыгуначная лінія, што ў канцы XIX ст. пачалі пракладваць з Баранавіч у Седльцы. Тутэйшыя людзі выконвалі самыя цяжкія земляныя работы. Прыгадаем, што ўсё тады рабілася без аніякіх машын — саматужнай тачкай ды сялянскім вазком з неабкаванымі коламі на драўляных восях. Але крывавым мазалём здабыты грош не праелі на булках ды не знасілі моднымі суконкамі ці касцюмамі. За заробленае воленцы прыкупілі зямлі ў фальварку, які якраз у той час распрадаваўся. Воленцы, як усе тадышнія беларускія сяляне, зямлю ўважалі самай вялікай каштоўнасцю...".

Падаюся ў бок Зубачоў. Дарога шырокая, але не абкапаная, яе насціл з'яўляецца галоўным чынам пясок. Вакол дарогі адносна маладыя сасновы лес. У той лес што нейкі час адыходзяць акуратна абкапаныя калісь дарогі... Мабыць, у час калгаснага ўздыму былі туды пракладзены перспектыўныя шляхі, якімі прагрэсіўная калгасная сельскагаспадарчая тэхніка мела каціцца на палі...

У Зубачах таксама быў калгас, але ад яго асталося намнога менш чым у Вульцы-Нурэцкай: па сутнасці будынак нейкай канторы, на даху якой вырас карлікавы лясок. Дваццаць гадоў таму была там крама; зараз яе будынак-барак пустуе. Затое не перастае здзіўляць тамашняя Пакроўская царква, пабудаваная ў 1895 годзе, якая даволі часта абнаўляецца — зараз на ёй серабрыстая бляха...

У Баброўцы, вёсцы, якая адным канцом падыходзіць да Зубачоў, а другім упіраецца ў дзяржаўную граніцу, не быў я бадай з дзесяць гадоў. А калі там быў, то мяне ўразіла вялікая вышка з беларускага боку, быццам заглядаючая цераз граніцу на польскі бок, у Баброўку менавіта. Цікава мне было пабачыць, як справа маецца там цяпер. Угледаўся я, угледаўся, нават выйшаў за вёску, але тае шакіруючае вышкі так і не звочыў. Спытаў я пра яе шпацыруючага селяніна, але той адказаў цалкам энігматычна, што яна можа і ёсць, а можа яе і няма. Ну, што ж, жывучы сама побач граніцы нельга занадта давяраць вонкавым людзям і рассакрэчваць мясцовыя тайны. За вёскай пасвілася адзінокая кароўка і пацікавіўся я, ці яна не можа адправіцца на другі бок граніцы; адказ быў такі, што граніца шчыльна загароджана.

Мікола Гайдук у сваім „Краязнаўчым слоўніку" так пісаў у 1978 годзе пра Баброўку: „Назва вёскі і праплываючага каля яе ручая Бобрівка паказвае, што калісьці тут былі бабровыя жарэм'і і, відаць, жылі баброўнікі". Бабры побач Баброўкі не звяліся і сёння. Вось па гэтай рачулцы, зараз за вёскай, ссечаныя бабрамі вербы, адно запруды расцягнутыя людзьмі, бо калі б не гэта, то тая рачулка заліла б сенажаці, якія тут яшчэ акуратна апрацоўваюцца. Дарэчы, бабры пасяліліся і ў маладым лесе, што вырас між Вулькай-Нурэцкай і Зубачамі, праводзячы там рэканкісту больш першабытнай прыроды, некалі засвоенай чалавечым „крывавым мазалём"...

Вяртаюся поездам з Чаромхі ў Гайнаўку. Значыць невялічкім рэйкавым аўтобусам, па пабудаванай у першых гадах мінулага стагоддзя лініі з Седльцаў у Ваўкавыск, Ліду і далей на поўнач, па якой можна было таксама, як згадваў Мікола Гайдук, заехаць і ў Баранавічы. Вагонам бязлітасна калоціць, уводзячы даволі жвавы дыскамфорт. Гэта не тое, што колішнія паравозы, за якімі вагоны бадзёра падрыгвалі, рвучыся наперад — была язда са станоўчым адрэналінам. А цяперашнія самыя новыя цягнікі па сучасных магістралях нясуцца мякка, быццам казачны лятучы дыван. Можа так будзе і на абноўленай былой Берасцейска-Граеўскай чыгунцы...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (5)

Маё знаёмства з Курашавам пачалося 4 лістапада 1962 года. У гэты дзень вернікі прыхадской царквы св. Антонія Пячэрскага маліліся ў храме перад іконай Казанскай Божай Маці. Сяло вялікае. Была тут мураваная ГС-аўская прадуктова-прамысловая крама, Сельскагаспадарчы гуртох, Гурток вясковых гаспадынь. Працаваў пункт скупкі агародніны «Вітаміна». Электрычнасці не было, таксама як і электратоку. Кінасеансы ладзілі мы ў школьнай зале. Паколькі ў Курашаве прыходзіла шмат публікі, неаднойчы па-над назначаную норму, дык кінаперасоўка заязджала сюды штомесяц. Шафёр з кінамеханікам мелі ў сяле «сваіх» гаспадароў. Першы заходзіў да Яна Масайлы, другі — да Янкі Паўлючука. Гэта яны прапанавалі не заставацца на начлег у Камені, толькі пасля сеансаў пераехаць у Курашава. Я не пярэчыў. Машыну паставілі побач школы. З залы даходзілі гукі музыкі. Бацькоўскі камітэт арганізаваў школьную забаву. Нашы спадарожнікі забралі веласіпеды. Выйшлі з машыны. Неўзабаве зайшоў кіраўнік школы Анатоль Швед. «Ці не маглі б вы пусціць у ход агрэгат і даць святло ў школу?» — запытаў. Шафёр з кінамеханікам пагадзіліся. Я не пярэчыў. У зале, дзе гулялі забаву, замігацела электралямпачка. У машыну вярнуліся кавалеры з Каменя, якіх мы падвозілі. Кожны з іх паставіў на стол бутэльку (паўтарачку) напою. «Чысты спірт... семдзесят градусаў», — заявілі. Механік пачаў рыхтаваць закуску. Са сваёй «спіжарні» выняў хлеб і каўбаску, банку свінскай тушонкі. Рыхтавалася вячэрняя выпіўка. Не паспелі перакуліць па кілішку «барышу» (за падвозку), як звонку пачуўся ап'янелы голас: «Забірай святло, бо паб'ю агрэгат!». Голас быў рашучы, патрабавальны. Заносілася на скандал. А на гэта я не мог дазволіць. Сказаў шафёру спыніць агрэгат і схаваць яго ў машыну. Забава далей працягвалася пры газоўках. У машыне засталіся хлопцы з Каменя. Шафёр з кінамеханікам прадаўжалі з імі пачастунак. Запрашалі мяне. Я адказаўся. Не ведаў я, што сабой прадстаўляе «70-градусны напой» і з якой крыніцы ён паходзіў. Пасля мне выявілі, што гэтае спіртное прымяняецца ў пунктах скупкі малака для абследавання кіслаты малочнай сыравіны.



■ Тадэвуш Міхаліс, кіроўца кінаперасоўкі перад школай у Камені, 60-я гады. Фота Уладзіміра Сідарука

Наступнага ранку кінамеханік падаўся да Янкі Паўлючука, сядзіба якога межавала са школай. Мы з шафёрам падаліся на вёску да Яна Масайлы. Наш гаспадар быў ветлівым і гаваркім. Жонка Марыся выходзіла з Істока, што каля Вітава. Мелі яны двое дзетак школьнага ўзросту. Малодшая Валя вучылася ў чацвёртым (як не памыляюся) класе, а старэйшы Янка ў пятым. Быў яшчэ дзядуля Павел. Вельмі сімпатычны старэча. Хадзіў з кулькай. У час нашага пазнейшага знаёмства многа расказваў пра мінулае. Аднойчы я зрабіў яму патаемна, сядзеўшаму пры вуліцы на лавачцы, здымак. Калі паказаў яму фота, дзядуля вельмі смяяўся. Быў задаволены і захаваў здымак на памяць.

Пасля снедання мы пайшлі ў школу. Настаўнікі арганізавалі ранішнік. А на адвячорку дэманстравалі вячэрнія кінасеансы для дарослых. З першага дня наладзіў я ў Курашаве станоўчыя кантакты з мясцовымі кавалерамі: Росцікам, вясковым музыкантам, Васем Нікалаюком, бухгалтарам сельскагаспадарчага гуртка, Васем Матвеюком, што працаваў у курашаўскай «Вітаміне» ды іншымі. Курашаўская кавалерка лічылася дружнай кампаніяй. На такіх можна было разлічваць у любых абставінах. Аб тым я пераканаўся ў пазнейшым часе. Але аб гэтым ужо ў чарговым допісе.

(працяг будзе)

❖Уладзімір СІДАРУК




# http://knigasvet.adu.by

Летась у Байнэце з'явіўся новы літаратурны сайт, прызваны, па ўсім відаць, апісваць падзеі ў беларускім кніжным свеце. Яго ўладальнік — Нацыянальны інстытут адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі. Там, пэўна, і нарадзілася адпаведная назва новага сайта — „Кнігасвет". Пачынанне адназначна вельмі добрае і яго было б варта ўсяляк вітаць, калі б не мноства недахопаў, якія ўзніклі таму, што інтарэс да „Кнігасвету" ў яго стваральнікаў і ўладальнікаў не надта высокі.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас сайта ў інтэрнэце **http://knigasvet.adu.by**, то патрапіць на даволі сціплую, але ў той жа час інтрыгуючую інфармацыйную старонку. Заінтрыгаваць яна, канешне, можа толькі таго, хто сапраўды зацікаўлены чытаннем і адсочвае хоць час ад часу навіны беларускага літаратурнага жыцця. „Ствараем кніжны сусвет разам!" — заклікаюць наведвальнікаў сайта яго ўладальнікі. Аднак такі заклік падаецца крыху заўчасным, бо нават дадзеная інтэрнэт-бачына яшчэ патрабуе значных намаганняў для давядзення да зручнага карыстання.

На галоўнай старонцы сайта змешчана стужка навінных паведамленняў. Паколькі даведацца пра сайт у рубрыцы „Пра партал", выйсце на якую месціцца ўнізе цэлага выяўлення немагчыма, бо „такой старонкі не існуе", яго гісторыю спрабуеш адсочыць менавіта па навінах. Але гэта не так проста. Клікнуўшы на апошнюю, гэта значыць восьмую, старонку, мы можам толькі пабачыць анонс навіннага паведамлення, „разгарнуць" які ўжо немагчыма. Таксама немагчыма адтуль перайсці і на іншыя старонкі навінных паведамленняў, бо спасылкі не працуюць. Таму, каб вярнуцца назад, прыходзіцца клікаць на выйсце да галоўнай старонкі.

Больш-менш цікавай мусіць быць старонка „Чытачам". Але там нас сустракае сказ: „У гэтай катэгорыі няма матэрыялаў", і пазначэнне: „Падкатэгорыі". Такія акалічнасці сведчаць аб тым, што сайт патрабуе дапрацоўкі, прычым неадкладнай, калі ўлічыць, што існуе ён больш за паўгода. Што ж тычыцца падкатэгорый рубрыкі „Чытачам", то іх даволі многа. „Літаратурныя навінкі", „Бібліятэчны навігатар (анатацыі да твораў)", „Літаратурны агляд", „Арт-сустрэчы (мерапрыемствы)", „Літаратурная вітрына (анонсы літаратурных твораў)", „Свабодны мікрафон", „Кніжны караван", „Кніжны марафон", „Літаратурная панарама" і „Малавядомыя літаратурныя факты" заклікаць пазнаёміць чытачоў з апошнімі падзеямі і працэсамі беларускага кніжнага жыцця. Аднак тут зноў не ўсё так проста — апошнія тэксты датуюцца лютым, і гэта нават не зважаючы на тое, што ў кожнай падрубрыцы не вельмі многа паведамленняў.

У рубрыцы „Аўтарам" найбольш цікавым падаюцца тыя падрубрыкі, якія змяшчаюць уласна творы пісьменнікаў. Асабліва вызначаюцца тыя, што напісаны маладымі дэбютантамі.

А вось рубрыка „Выдаўцам" пустая і не вядома з якой мэтай была створана. Здаецца, што перад тым, як пазначаць рубрыку, стваральнікам варта было б падумаць, што ж яны там апублікуюць, бо адсутнасць матэрыялаў на той ці іншай старонцы значна змяншае прыцягальнасць цэлага сайта. Аб гэтым сведчыць і старонка „Форум", якой, як і рубрыкі „Пра партал", не існуе.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




Герой антысавецкага супраціву



## 50 гадоў з дня смерці
# Міколы Дзямідава

Беларускі вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч Мікола Дзямідаў нарадзіўся ў мясцовасці Гарадок на Беласточчыне 10 снежня 1888 г. Быў сынам Станіслава Катнароўскага і Аляксандрыз Каліноўскіх, а прозвішча меў па другім мужу маці. Яго дзед з боку маці, Аляксандр Каліноўскі — родны брат Кастуся Каліноўскага.

У 1905 г. закончыў настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы. У 1907 г. паступіў як вольны слухач на вячэрнія курсы на гістарычна-філалагічны факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля працаваў у канцылярыі службы руху Управы Прывіслянскай чыгункі. У 1911 г. прызначаны кіраўніком школы чыгункі ў Беластоку.

З 1914 г. на ваеннай службе ў царскай арміі. 1 лютага 1917 г. закончыў Першую Паўлаўскую вайсковую школу. Удзельнічаў у кастрычніцкай рэвалюцыі, быў навагародскім акруговым камісарам. З сакавіка да лістапада 1918 г. у нямецкім палоне. Арганізаваў беларускія атрады ў Вільні. 1 снежня 1918 г. накіраваны як паручнік у Літоўскае міністэрства абароны. З 20 снежня 1918 г. да 1 чэрвеня 1919 г. быў камендантам Гародні. Арыштаваны польскімі ўладамі, сядзеў у Коўне, быў інтэрнаваны ў лагер у Беласток. У 1919 г. увайшоў у склад Беларускай вайсковай камісіі ў Вільні.

У 1920 г. у наваколлях Беластока стварыў батальён з 400 чалавек і далучыўся да арміі Станіслава Булак-Балаховіча. Гэты батальён меў на ўзбраенні 2 палявыя гарматы і 4 кулямёты, яго ўдзельнікі паходзілі пераважна з Беласточчыны. У складзе пяхотнага палка ў лістападзе вёў зацятыя баі за Калінкавічы, удзельнічаў у баях над Прыпяццю. Пасля адступлення арміі Булак-Балаховіча на кантраляваную палякамі тэрыторыю працягваў змаганне аж да студзеня 1921 г., пасля чаго адышоў на польскі бок фронту, паехаў прасіць падтрымкі ў Варшаву, але быў інтэрнаваны. Батальён Міколы Дзямідава быў апошнім беларускім атрадам, які ў адкрытым баі супраціўляўся савецкім войскам.

У 1921-1922 гг. быў настаўнікам у Гарадку, потым жыў у Латвіі. У 1940 г. быў арыштаваны і да 1941 г. зняволены ў Маскве на Лубянцы, потым вызвалены. У 1941-1944 гг. — інспектар школьніцтва ў Латвіі і Беларусі. Нейкі час быў у Дзвінску, потым увайшоў у склад Беларуская нацыянальнага камітэта ў Рызе. Пазней стаў выкладчыкам у батальёне Беларускай краёвай абароны.

Быў адным з ініцыятараў сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Канстанцы ў 1948 годзе і аднаўлення БАПЦ пасля адыходу Беларускага епіскапата да Замежнай Рускай Праваслаўнай Царквы. У 1950 г. Мікола Дзямідаў выехаў у ЗША і напачатку пасяліўся ў штаце Мічыган, але неўзабаве пераехаў у Чыкага. Мікола Дзямідаў вёў беларускія радыёперадачы, быў актыўным дзеячам Згуртавання беларусаў штата Ілінойс. Шчыра сябраваў з Язэпам Варонкам і Алесем Змагаром. Быў сярод заснавальнікаў беларускай праваслаўнай парафіі ў Чыкага і першым рэгентам яе хору. Пазней, аднак, Мікола Дзямідаў далучыўся да беларускай уніяцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага і быў адным з найбольш актыўных парафіян.

Апошнія гады свайго жыцця правёў у Лансінгу, дзе памёр у беднасці 23 траўня 1967 г. у веку 78 гадоў. Быў пахаваны грэкакаталіцкім святаром на могілках у Чыкага.

У сённяшняй Беларусі афіцыйная гістарыяграфія замоўчвае асобу Міколы Дзямідава. Найбольш пра яго напісаў гісторык Алег Латышонак у кнізе „**Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923**" (Беласток 1995).

❖Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Які дыягназ?

У сераду, 17 снежня 2014 года паехаў я ў Беласток, каб выкупіць ільготныя праезды чыгуначным транспартам для пенсіянераў ды ўзяць «Ніву» з календаром у рэдакцыі для распаўсюджвання. Справы аформіў тэрмінова, таму адправіўся на чыгуначны вакзал. Цягнік у Чаромху на 15:52 не быў падстаўлены ў пероны (падставілі яго на 15 мінут перад ад'ездам). Чакаючы на пероне больш за паўгадзіны пад адкрытым небам прастудзіў ногі. 19 снежня адчуў моцнае амярцвенне левай нагі. Боль пачынаўся ад вялікага пальца, затым выпраменьваў на шчыкалатку. Наступнага дня (20 снежня) наступіў параліч левай нагі. Выклікаў я хуткую дапамогу. Па абследаванні медык заявіў: ішыяс або трамбоз. Зрабілі абязбольваючы ўкол. «Калі ўкол не падзейнічае, дык тэлефануйце ў Гайнаўскую бальніцу, каб лекар прыпісаў антыбіётык». Два чарговыя дні прымаў я абязбольваючыя лякарствы «кетоль» і «ольфен». Ад 22 снежня 2014 года заставаўся пад апекай сямейнага лекара. Прыпісвалі розныя прэпараты ад запалення суставаў. Не памагала. Два разы кансультаваўся з артапедамі ў Гайнаўцы. Далі зрабіць абследаванні — ультрагукавое, затым Доплера. Вынік станоўчы. Абследаванні не выказалі вянознай змярцвеласці. Спецыялісты канстатавалі: «Боль бярэцца ад пазваночніка. На гэта няма лякарства». Два гады цярплю боль, сціскаючы зубы. Ледзь рухаюся пры дапамозе двух мыліц. 22 сакавіка г.г. браў кансультацыю ў Беластоцкай артапедычнай клініцы. Артапед прад'явіў зрабіць прасвятленне левай (балючай) нагі і пазваночніка. Вынік паказаў шматсустаўнаю дэгенерацыю суставаў і пазваночніка. Зрабіў абязбольваючы ўкол у сустаў вялікага пальца, затым прыпісаў таблеткі «тызанор». Заплаціў я ў аптэцы 29,08 зл. Калі я прачытаў далучаную да прэпарату лістоўку, дык выявілася, што гэта лякарства ад рассеянага зацвярдзення мускулаў. Праз месяц прымянення «тызанору» я стаў варушыць пакрысе пальцамі балючай нагі (раней зусім не мог варушыць пальцамі). Калі я папрасіў паўтарыць гэтае лякарства, «тызанор», значыцца, сямейны лекар запытаў, хто яго прыпісваў. І тут праблема. Таблеткі «тызанор» на ільготны выкуп можа прыпісаць толькі лекар-спецыяліст. Тады заплачу 8,71 зл. Сямейны лекар можа выпісаць рэцэпт на 100-працэнтны выкуп. Ці гэта справядліва? Ад чаго тады сямейны лекар? Для моды? І яшчэ адно. Сямейны лекар выпісаў мне накіраванне ў бальніцу на шпіталізацыю ў рэабілітацыйным аддзяленні. Адмовілі, бо накіраванне на рэабілітацыю павінен выдаць спецыяліст. Я з хворымі нагамі вымушаны быў наняць прыватны аўтамабіль і падацца 30 кіламетраў па паперку накіравання. Дзякуючы ветлівасці пані доктар-неўролаг пісульку атрымаў без праблемы. Застаецца адно нявырашаная справа прыпісвання «тызанору» сямейным лекарам па ільготнай на 30% цане.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Кляшчы атакуюць



— Кляшчоў з году ў год прыбывае. Спрыяюць гэтаму кліматычныя змены. Апошнім часам маем карацейшыя і лягчэйшыя зімы, — тлумачыла Марта Кусь-Славінская, лабараторны дыягност Цэнтра абследвання ДНК. — Абследаванні асабліва істотныя таму, што ўсё часцей выяўляецца, што кляшчы могуць заразіць барэліёзам, бабезіёзам, анаплазмозам ці токсаплазмозам. У санэпідэмстанцыі можна праверыць ці знойдзены на целе клешч носіць у сабе ўзбуджальнік інфекцыі.

Паводле даных Велікапольскай санэпідэмстанцыі да 30 красавіка г.г. ва ўсёй краіне зарэгістраваны былі 4673 захворванні на барэліёз. Гэта больш чым на працягу ўсяго 2005 года. А вінаватыя ўсяму кляшчы. Атакуюць зараз з двайною сілай. Знаходзяцца яны ў парках, на пляцоўках гульняў, у агародчыках. Варта аб гэтым памятаць. **(ус)**

# „Ніва” — наш найлепшы прыяцель

Дваццаты нумар „Нівы” ад 14 мая гэтага года ў Нараўцы хутка разышоўся. 11 мая купіў я першнаперш для сваіх аднасяльчан у Новым Ляўкове чатыры экземпляры беларускага штотыднёвіка ў краме ГСу побач помніка ля скрыжавання вуліц Гайнаўскай і Міцкевіча ды тры ў краме „Аргелян” па вуліцы Гайнаўскай. „Ніву” завёз Альжбеце і Уладзіміру Красноўскім, Марыі і Сяргею Саевічам, Лідзіі Галубоўскай і Ніне Галубоўскай з Новага Ляўкова ды Веры Клімюк з Плянты. 12 мая я быў у Гайнаўцы і купіў чатыры экземпляры роднай газеты ў кіёску з прэсай па вуліцы 3 Мая для Марыі і Канстанціна Целушэцкіх, Зіны Сахарчук, Вольгі і Віталя Скепкаў ды Зіны Рубчэўскай з Новага Ляўкова.

„Ніву” № 21 ад 21 мая 2017 года з Нараўкі і з Гайнаўкі я прывёз Марыі і Канстанціну Целушэцкім, Лідзіі Казлоўскай, Малгажаце і Славаміру Смольскім,




Марыі Крышань, Вользе і Віталю Скепкам, Эве Дзеніс, Мікалаю Скепку, Ніне і Міхалу Целушэцкім, Расе і Міхалу Баканачам, Галіне і Юрку Казлоўскім, Ірэне Казлоўскай і Раману Марчуку з Новага Ляўкова, Кацярыне Рэент з Лешукоў ды Янку Барчуку і Валянціне Самойлік з Плянты. Кожны з чытачоў знайшоў сабе нешта адпаведнае для прачытання. У кожнай „Ніве” цікавыя рэпартажы, артыкулы, фельетоны, доследы і допісы, крыжаванка, гараскоп ды больш дваццаці фотаздымкаў. Заўсёды цікавыя артыкулы на актуальныя тэмы. Многія чытачы любяць чытаць успаміны, запісы. Тыя, што пішуць паэзію, прачыталі новыя вершы Веры Радзіванюк і Валянціны Мядзведзь.

Варта не забываць, што „Ніва” — ваш найлепшы прыяцель. Дзякуючы ёй мы, беларусы, не забываем сваёй роднай мовы. На ёй складаем вершы і песні, між іншым, пра прыгожую і любімую нашу краіну-радзіму і пра нашы шчаслівыя гады жыцця на роднай зямлі ў міры і сярод родных. Яна гуртуе вакол сябе дарослых і дзяцей. Яны ўваходзяць быццам у адну вялікую дружную сям'ю. Пашыраюцца знаёмствы і новыя кантакты. Лягчэй жыць, калі ёсць падтрымка знаёмых добразычлівых людзей кожны дзень.

Многія чытачы звязаны з „Нівай” ад пачатку яе існавання. Старэйшыя адыходзяць ад нас, паміраюць, але ім на замену прыходзяць маладыя. Вельмі добра, што наша беларуская газета ёсць. Яна падтрымлівае нашу беларускую духоўнасць, нашу беларускую свядомасць. Дзякуючы ёй мы больш ведаем пра сябе ды пра далёкіх і блізкіх нам людзей. Яна дапамагае нам жыць. Дык не забывайма яе. Беларускі штотыднёвік трэба купляць і чытаць. Расцвітай нам „Ніва” як сад вясною!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

1. Георгій, у 1953-55 гадах старшыня Савета міністраў СССР (1902-1988), 2. савецкая калектыўная ферма, 3. самаходы, фурманкі, караблі, самалёты, цягнікі, лятучыя дываны..., 4. стан райскага задавальнення (*keif*), 5. важны зуб драпежніка, 6. нядоля, 7. лёс, 8. горад на паўднёвым захадзе Марока, 9. Адам, польскі паэт з Навагрудчыны, 10. анты-вясна.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |
| | 1 | | | | 2 | | | 3 | | | |
| | | 4 | | 5 | 6 | | | | 7 | | |
| | | | 8 | | | | 9 | | | | |
| | | | | | | | | | | 10 | |

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Аазіс, абед, біт, вуха, галоп, рунь, рыба, рэха, суквецце, тын, чутка.

Рашэнне: **Каб на агурках не было пустацвету, трэба садзіць іх увечары.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 28.05 — 03.06

**(22.03. — 20.04.)** Утрымаеш свае здабытыя пазіцыі. Але 27-31.05. зоркі фундуюць табе перашкоды, спазненні і фрустрацыю. Старанна складзі план дзеянняў на наступны тыдзень, нічога не ўпусці, і тады будзе табе забяспечаны поспех. Выяўляй у справах больш гнуткасці, ідзі на кампрамісы, і так дастанешся сваёй мэты. У панядзелак пастарайся не мець зносін з малазнаёмымі людзьмі.

**(21.04. — 21.05.)** 30-31.05. паспяхова выкарыстаеш свае веды і інфармацыі. Хтосьці паспрабуе выкарыстоўваць цябе ў сваіх мэтах. Гэта табе асаблівай шкоды не прынясе, але іншыя людзі абавязкова апынуцца ў мінусе. Старайся трымаць язык за зубамі, не выдавай сакрэтаў і таямніц. Працуючы над новымі праектамі, не давай навакольным зразумець іх сутнасці, інакш сёй-той вырашыць іх у цябе «запазычыць».

**(22.05. — 22.06.)** 27-31.05. будзеш прымушаны да абмежаванняў, на якія не маеш ахвоты. У гэты перыяд вялікая верагоднасць патрапіць у нейкую двухсэнсоўную сітуацыю або ў пастку альбо проста зацяцца ў ліфце. Час асабліва спрыяльны для тых, хто заняты мастацтвам і творчасцю: іх чакаюць поспех і слава. Бізнесменаў чакае часовае зацішша.

**(23.06. — 23.07.)** 27-29.05. шанцы на адкрытыя размовы і дыялог, многа імпрэз, паездак. Энергія Сусвету падтрымае твае планы па змене ладу жыцця. Зрабі свядомы выбар — пазбаўся ад непатрэбных рэчаў і спыні зносіны з хаатычнымі людзьмі. У метро ці цягніку ў панядзелак не садзіся ў першы вагон.

**(24.07. — 23.08.)** Адкрываюцца новыя магчымасці. Твае даходы пачнуць павялічвацца, атрымаеш перавагу над іншымі. Чакаюць цябе грамадскія і дзелавыя сустрэчы, засяродзься на даходных справах і мерапрыемствах. Трымайся ўбаку ад эмацыйных канфліктаў.

**(24.08. — 23.09.)** 30-31.05. можаш зрабіць добры ўжытак са сваіх ведаў. 28.05. вельмі трымайся правіл і законаў. Калі паўстане якаянебудзь складаная сітуацыя або праблема, пусці ўсё на самацёк і нічога не пачынай: усё вырашыцца само. Варта трохі стрымаць свой гонар — дэманстрацыя згодлівасці часам можа прынесці выгаду.

**(24.09. — 23.10.)** Да 30.05. не дай сябе справакаваць праціўнікам. Плануючы канікулы, прымі пад увагу зусім іншы від свайго адпачынку. Цяпер трэба будзе вырашыць пару канфліктаў. Магчымыя некаторыя змены, звязаныя з тваім фінансавым і сацыяльным становішчам. Нядрэнна было б пасачыць за сваім здароўем: можаш стаць лёгкай здабычай для інфекцыйных захворванняў.

**(24.10. — 22.11.)** 28-29.05. добры клімат для негацыяцый. 28-30.05. чакае цябе важная размова з кіраўніцтвам. 30-31.05. выйграеш паядынак на аргументы. У тваім жыцці адбудзецца нешта новае, незвычайнае, нейкая інтрыга. Выявіцца ў табе здольнасць прыцягваць тое, што захочаш. Усе жаданні павінны здзейсніцца! Можаш пакарыстацца вясёлай магіяй. Вазьмі кавалак моцнай белай вяроўкі дзвюма рукамі за канцы. Пацягні яе ў розныя бакі з усіх сіл, уяўляючы, што энергія твайго жадання ўліваецца ў вяроўку. Пасля абматай вяроўку вакол свечкі. Свечку падпалі і дай ёй прагарэць да канца.

**(23.11. — 22.12.)** Твой настрой будзе не вельмі сур'ёзным, і гэта можа выклікаць раздражненне ў людзей з адсутнасцю пачуцця гумару. Вялікая верагоднасць буйных памылак, зробленых пад уплывам эмоцый і пачуццяў, як тваіх уласных, так і чыіхсьці. Праяві розум і не ідзі на падставе толькі імгненнага запалу і жаданняў.

**(23.12. — 20.01.)** У маі правядзеш важныя мерапрыемствы, аформіш важныя справы ва ўстановах і на працы, будзеш мець падтрымку. Хаця 28-30.05. можа не хапіць табе цярплівасці. Знойдзеная ў гэты перыяд замежная манета прынясе табе поспех ва ўсіх справах. Час рэалізаваць старыя планы. Любое супрацоўніцтва вельмі выгаднае. Рыхтуйся да новых сустрэч і раманаў. Варта дзейнічаць актыўна і рашуча, маеш шанцы заявіць пра сябе і прыкметна прасунуцца ў кар'еры.

**(21.01. — 19.02.)** 28-30.05 будзеш прымушаны адбівацца ад кагосьці вельмі кепскага. Раптоўныя змены ў тваім жыцці могуць скончыцца вялікімі стратамі. Можаш выдаткаваць марна або страціць значную суму грошай. Адмоўся ад сумнiўных здзелак і адкладзі буйныя пакупкі. Будзь асцярожны, падымаючыся па крутой лесвіцы, асабліва ў панядзелак.

**(20.02. — 21.03.)** 28-29.05. засноўвай суполкі, наладжвай новыя адносіны. Будзь вельмі асцярожны на вуліцы. Можаш атрымаць нейкую ілжывую інфармацыю. Не вер таму, чаго не бачыў на свае ўласныя вочы, не падпісвай непрачытаных дакументаў і не спадзявайся на запэўніванні нават добрых сяброў. Прыглядзься як след да здароўя свайго і блізкіх. Пі многа чыстай вады.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (87)



На Ратненшчыне яшчэ ў пяцідзясятыя гады немагчыма было дабрацца возам з сяла ў сяло. Асабліва вясной, калі з берагоў выступалі рэкі Прыпяць і Выжаўка, прачыналіся прытокі і peраліваліся ручаі. Каб не страгнуць у балоце, туземцы надзявалі на ногі плеценыя лыжы, якія кшталтам напаміналі растапыраныя лапы балотных паўзуноў. Ды і хадзіць далёка не было патрэбы. Усе неабходныя для жыцця прадукты і прылады вынаходлівыя палешукі выраблялі на месцы, сваімі рукамі. І як тысячу гадоў раней яны карысталіся непазначанымі палявымі і ляснымі дарогамі, на якіх чалавек звонку, у самым аптымістычным выпадку, мог бы заблудзіцца.

А тым часам я імчала ў Ратна па трансгранічнай шашы Кіеў — Ковель — Брэст з касмічнай, калі ўлічыць палескія меркі, хуткасцю — восемдзесят кіламетраў у гадзіну.

Капрызлівая ў дамеліярацыйныя гады рака Выжаўка, якая перасякае шашу непадалёк Ратна, сёння скораны, перакінуты пад лінейку канал. Якраз ля яго берагоў ішла расчыстка рэчышча, па берагах канала віднелі вастраверхія гурбы ілу і пяску. Пасля катастрафічнай засухі, якая ўжо тры гады запар наведала рэгіён, каналы месцамі цалкам перасохлі. І зараз, каб вярнуць ім плынь, трэба выкінуць з дна ракі 1-1,5 метра пяску і ілу.

Аднак уся гэтая аперацыя прамаўляла як паратунак для рэк, азёр і балот. Бо яны, нягледзячы на ўсе мадэрныя развязкі, каналы, галандскія польдары і штучныя вадаёмы, далей жылі ў ментальнасці і памяці туземцаў. Дынават прамаўлялі шчымлівым сентыментам і рамантыкай. У раённым цэнтры Ратна на тэму балота і разводдзяў ведалі ўсё. Яшчэ сто гадоў таму, калі напрадвесні разліваліся Прыпяць і Выжаўка, па вуліцах плавалі лодкамі. Ратняне дабіраліся па кладках на рынак, у сінагогу, у госці. І гэта здавалася чымсьці звычайным, здаровым. На старых фатаграфіях можна пабачыць кладкі па абочынах вуліц з прывязанымі да іх лодкамі.

Таксама праз Прыпяць перакінутая драўляная кладка, па якой, беручы пад увагу яе шырыню, хадзілі толькі гуськом. Тая памяць пра бездарожжы і балоты захавалася ў старажытнай вясельнай песні, дзе маладыя спачатку ехалі возам па вымашчанай дарозе, пасля ішлі пешшу па кладцы праз лясны гушчар ды апошні адрэзак, дзе няма ўжо ніякіх дарог і кладак, адольвалі з дапамогай закляццяў. Яны перакідаліся ў птахаў і на крыллі ляцелі на свой хутар, на астравок. Апошняя рэч, якая ў свеце явіцца чыстай магіяй, тут ніякае дзіва і не сенсацыя, а звычайная неабходнасць.

* * *

У сучасным Ратне нават пасля дажджу не было калюгаў і балота. Па асфальтаваным цэнтры са свістам ганяліся машыны, частка імчала ў беларускі Брэст. У піцэрыі «Тарантула» прапанавалі італьянскія стравы. У зале якраз спраўлялі «кіндар-парты» — дзве асобныя групы, у якіх прысутнічалі чамусьці адны дзяўчаткі, дзялілі між сабой агромністыя, на палову стала, піцы. Увесь гоман і размовы каламуціла італьянская, рамантычная поп-музыка. Пад палеска-італьянскім дахам я заказала суп са шпінату, які ў маёй сентыментальнай галаве явіўся заменнікам лебяды або крапівы. Бо і так усе думкі і цела ірваліся ў балотны ландшафт. Якраз у мясцовым аддзеле адукацыі я пачула пра разводдзі на Прыпяці ў Рэчыцы і Шчадрагоры, што на канцы раёна. Ды туды, як абяцалі мае субяседнікі, вяла нармальная дарога...

Сапраўды, спачатку дарога, калі лічыць па палескіх мерках, здавалася нармальнай, то-бок па ёй можна разагнацца да пяцідзесяці кіламетраў у гадзіну. Аднак, калі прыйшлося адбіць на поўнач і з'ехаць з шашы, што з Ратна ідзе ў Камень-Кашырскі, хуткасць язды паменшала ў два, а месцамі нават і ў тры разы. На такіх дарогах праследуе адна думка — каб толькі не паламалася машына. Нішто іншае ўжо не баліць, не хвалюе. Каб не наклікаць якой катастрофы, трэба маўчаць і любавацца дзікасцю ландшафтаў.



А такіх атракцыёнаў было ў дарозе, хоць адбаўляй. У кожным сяле, праз якое даводзілася ехаць, туземцы завіхаліся пры балоце. Гаспадары і падлеткі капалі раўчукі, каб з іх дапамогай выпусціць ваду з агародаў і панадворкаў. Хоць сама вада здавалася тут неад'емнай «прыладай» жыцця. Людзі не ўмелі без яе жыць. Пры многіх панадворках красаваліся мініяцюрныя азерцы, сажалкі, равы і часам каналы. У такім месцы чалавек разумеў, што сяло без балота — не сяло! Вада аднак спалучалася з багаццем, вясковай прадпрымальнасцю. Сярэдзінай вуліцы ўсюды абавязкова праходжваліся велізарныя статкі гусей. На чале гэтай банды ішоў гусак, які прыставаў і шыпеў у бок машыны. Па забалочаных абочынах шпацыравалі індыкі і качкі, лазілі каты. Дарогу ўсё перабягалі куры. У нарысе пра Ратнеўскі раён я знайшла вестку пра рэнесанс каня. Зараз на Ратненшчыне да пяці тысячы коней. Сапраўды, конік з фурманкай — неад'емны матыў палескага краявіду.



У Хотышы на скрыжаванні дарог, быццам на рынку, сяляне гандлявалі бульбай «амерыканкай» проста з воза. За кілаграм прасілі 30 цэнтаў. Мітусня вакол фурманак падказала, што кожная сям'я пасадзіць бульбу. Не менш узрушыла маладое сужонства, якое выйшла да свайго «хатняга» азерца і закідала сеці на рыбу. Іх занятак здаваўся звычайным і штодзённым, як шпацыр з сабакам па гарадскім парку. За вёскай, хоць там нічога не дзеялася, было яшчэ цікавей. Часам немагчыма было паверыць, што такі свет яшчэ існуе. Над балотнымі лугамі, аброслымі квітнеючай лотаццю, грацыёзна кружылі белыя чаплі, лёталі канюкі і буслы. Буслы былі ўсюды. У сяле Добрэ я налічыла каля трыццаці буслянак.

Па дарозе ў Шчадрагор дзеялася нешта дзіўнае і не тое, чаго чакаеш. Чым больш я набліжалася да ракі, тым мясціны здаваліся больш цывілізаванымі і абжытымі. Тут таксама былі лепш адраманятаваныя дарогі і чысцей апранутыя людзі. Але ж рамантыка не адчапілася і ў гэтым прыстойным, здавалася б абязлюджаным месцы. Замест у падтопленым Шчардрагоры, я апынулася ў Рэчыцы, таксама здорава падтопленай. Як гэта адбылося — вялікая тайна! Увесь час дарогу падказвалі ветлівыя туземцы і нават паказвалі яе рукой.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**



ISSN 0546-1960